
Свята славянскай пісьменнасці → 8


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714






http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 24 (3135) Год LXI | Беласток, 12 чэрвеня 2016 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**Найноўшы спектакль у беластоцкім Драматычным тэатры ім. Аляксандра Вянгеркі гэта расказ аб выгнанні, міграцыі, свеце ў момант гвалтоўнага зруху, з пункту гледжання пары людзей з нашага бяспечнага і стабільнага свету. Героі ўкінутыя ў гэты зрух, раптоўную змену, магчыма, па ўласнай волі, магчыма, гэта гульцы, якія шукаючы вострых адчуванняў прымаюць удзел у гульні «Эксодус 2.0», дзе блукаюць у лесе ўяўленняў аб бежанцах, вайне і распаду звыклага для іх свету.**

# Гульня ў бежанства

Асноўнай крыніцай натхнення для аўтараў трохі больш чым паўтарагадзіннага прадстаўлення з'яўляецца гісторыя бежанства, але не прадстаўленая ў простай форме, з апавяданнем далёкім ад традыцыйнага. Яно ўяўляе сабой працяг пленэрнага відовішча напісанага Данай Лукасінскай, згулянага толькі двойчы ў канцы жніўня на чыгуначным шляху Саколы — Лапы. «Эксодус 2.0», прэм'ера якога адбылася 4 чэрвеня, аснаваны на справаздачах бежанцаў. Вакол іх будуецца сцэнічная рэальнасць — ігры з удзелам двух галоўных герояў (Кацярына Сергей, Гжэгаж Фалькоўскі — пастаянна акцёр Тэатра паўшэхнага ў Варшаве) нагадвае камп'ютарную гульню. Яе галоўнай гераіняй і кімсьці ў якасці яе майстра з'яўляецца Параксена, шаптуха (Ева Палінская). Яна, як і Вяшчун (Францішак Утко) выклікае безыменныя галасы бежанцаў, уцекачоў і шукаючых прытулку. Заклікае да малітвы — паніхіды. З гэтай гульні няма выйсця. З'яўляюцца ў спектаклі таксама спасылкі на становішча бежанцаў, сярод іншага, з Сірыі, са згадкай на суправаджаючыя гэтую сітуацыю рэакцыі «нашага» свету: жыраваннем СМІ на лёсе бежанцаў ці іншыя цынічныя і подлыя спробы выкарыстоўваць іхняе становішча.

Падчас прэс-канферэнцыі перад прэм'ерай дырэктарка Драмтэатра і ў той жа час рэжысёрка спектакля Агнешка Карыткоўская-Мазур падкрэсліла:

— Тое, што адбываецца ў свеце, апярэдзіла нашы пошукі. Прадстаўленне ўключае ў сябе гісторыю бежанства, але ў той жа час з'яўляецца ўсёй гісторыяй бежанцаў з біблейскіх часоў да нашых дзён. Рамкі гэтых нашых аповедаў аб уцёках вельмі ёмістыя. Прысутная ў спектаклі гульня, якая сёння з пункту гледжання моцных і трывожных працэсаў, якія адбываюцца вакол нас, жывучых ва ўтульных гняздзечках, у дамах, у цывілізаванай частцы свету, да якога рухаюцца ўцекачы, ставіць перад намі пытанне: што значыць быць бежанцам. Мы ўступаем у нейкі род гульні, каб адчуць такія пытанні.

— На самой справе мы ўсе — нашчадкі ўцекачоў, — сказаў гасцінна выступаючы ў спектаклі акцёр варшаўскага Паўшэхнага тэатра Гжэгаж Фалькоўскі (вядомы беластоцкаму гледачу па ролі націста ў «Сонцы» паводле рамана Ігната Карповіча). — У гульні мы спрабуем высвятліць, чаму пачынаеш ісці, чаму ўцякаеш і скантраставаць уяўленні аб бежанцах з тым, як выглядае рэальнасць, якой тэлебачанне нам не пакажа.

Аўтар сцэнарыя — ураджэнец Грубяшова (Замойшчына) Артур Палыга, адзін з самых універсальных маладых драматургаў у Польшчы. Яго п'есы двойчы атрымалі Гран пры фестывалю R@port у Гдыні і перамаглі ў Конкурсе на пастаноўку польскага сучаснага мастацтва. Ён прызнаецца, што пакуль прыступіў да працы над тэкстам прапанаваным Агнешкай Карыткоўскай-Мазур «Эксодус 2.0», пра бежанства ён нічога не чуў і — як падкрэсліў — гэта для яго было вялікае адкрыццё:



■ Сцэнаграфія з'яўляецца свайго роду неглыбокім басейнам, з астраўком зямлі ў яго цэнтры, якая на працягу п'есы ператвараецца ў аазіс з гразі



■ Мацей Заклічынскі і Агнешка Карыткоўская-Мазур

— Заўсёды, пішучы тэкст, я хачу прывесці тэму да сучаснага гледача, каб мець магчымасць суперажываць з гэтымі персанажамі. Спачатку я ўяўляў сабе, што гэта адбываецца праз дзесяць гадоў, канфлікт выбухне, мы сталі бежанцамі.

Дызайн для спектакля-гульні стварыў Яцак Малiноўскі, касцюмы — Агата Вонс, музыку напісаў Міхал Яцашэк, за сцэнічны рух адпавядае Мацей Заклічынскі, а за візуалізацыі — Павал Грэсь. Сцэнаграфія з'яўляецца свайго роду неглыбокім басейнам, са свайго роду астраўком зямлі ў яго цэнтры, якая на працягу п'есы ператвараецца ў аазіс з гразі. Агнешка Карыткоўская-Мазур:

— Мы вырашылі, што ў гэтым свеце, які хочам закрануць і глыбока ўвайсці ў яго, адзінае, што ў нас агульнае са светам, аб якім мы расказваем, з'яўляюцца элементы — вада, паветра, зямля. Яны з'яўляюцца паўнапраўнымі героямі.

Гэтае прадстаўленне — апошняе, якое Агнешка Карыткоўская-Мазур паставіла ў беластоцкім тэатры. З пачаткам новага сезона (у пачатку верасня) пасля чатырох гадоў яна перастае ім кіраваць. З нагоды прэс-канферэнцыі, прысвечанай п'есе «Эксодус 2.0», «Ніва» спыталася ў яе, што для яе значыць тое, што якраз гэтае відовішча зрэалізавала на канец свайго знаходжання ў Беластоку.

— На самой справе гэта замыканне нейкай гісторыі, якую за гэтыя чатыры гады я спрабавала зрабіць у гэтым тэатры, то-бок, пранікание ў гісторыю Падляшша, дакрананне да нейкіх нязручных тэм, неназваных, задаванне часам нязручных пытанняў, але ж неабходных для выканання гэтай задачы. Тое, што тут на працягу чатырох гадоў мела месца ў кантэксце гэтага пошуку, удалося вывесці па-за межы тэатра. Гэты спектакль — таксама мая апошняя спроба выйсці з Падляшша на шырэйшыя воды, спроба адкрыць яго. Я ведаю, што гэтыя дзверы ад майго ад'езду могуць зачыніцца. Думаю, што гэтая сцежка пошукаў гэтым відовішчам у гэтым тэатры канчаецца.

Нагадаем, што за кіраўніцтва і рэжысуры Агнешкі Карыткоўскай-Мазур у беластоцкім драмтэатры вялікая ўвага была ўдзелена пытанням, звязаным з польска-беларускім памежжам («Антыгона», «Бежанцы. Эксодус», «Сонька», «Чарнобыль. Last minute»), а таксама больш шырокім рэгіянальным пытанням у цэлым, як у адным з апошніх выступаў, выклікаючым спрэчкі, «Белая сіла, чорная памяць». Беларускія тэмы часта мелі тут месца, таксама, напрыклад, у рамках чытанняў перфарматыўных драм Мікалая Рудкоўскага альбо Паўла Пражко. Гасцінна выступалі ў спектаклях выдатныя беларускія акцёры Святлана Анікей, Аляксандр Малчанаў ці Алег Гарбуз. Тэатр усталяваў кантакты з Рэспубліканскімі тэатрам беларускай драматургіі і Нацыянальным тэатрам імя Янкі Купалы з Мінска. Прыняў удзел у адзіным незалежным тэатральным фестывалі ў Беларусі M@RT KONTAKT у Магілёве ці ў «Белай вежы» ў Брэсце, дзе яго выступы ўзнагароджваліся. У мастацкай радзе тэатра з дванаццаці чалавек былі праф. Алег Латышонак і праф. Лявон Тарасэвіч. Усё паказвае на тое, што з адыходам дырэктаркі Карыткоўскай-Мазур скончыцца адкрыццё Драматычнага тэатра ў Беластоку на беларусаў, беларушчыну, Беларусь, тутэйшасць.

У гэтым сезоне ў тэатры імя Вянгеркі плануецца яшчэ адна прэм'ера — «Цудоўная» па кнізе Пятра Нестаровіча (11 чэрвеня), у рэжысуры і адаптацыі маладой рэалізатаркі тэатра Зузанны Бойды. Гэты спектакль ужо выклікае пратэсты, таксама як з правых каталіцкіх кол пасля «Белай сілы, чорнай памяці». На гэты раз інтэрпеляцыю са словамі абурэння ў падляшскую ўправу падаў ваяводскі радны ад ПіС Багуслаў Дэмбскі. У якасці аргументу супраць паказу гэтай адаптацыі прыводзіць ён той факт, што заблудаўскі цуд, аб якім яна расказвае, не быў прызнаны Каталіцкім касцёлам.

❖ Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА





# Дональд Джон Трамп

Выбары сёння праводзяцца ў большасці краін свету. Для бельгійца або шведа гэта сапраўды важная падзея. Так ён думае, бо тэарэтычна менавіта выбаршчыкі сваёй большасцю вырашаюць не толькі хто будзе кіраваць краінай, але і што канкрэтна мусіць быць зменена ў параўнанні з мінулым перыядам. І тут важным з'яўляецца тое, наколькі давяраюць выбаршчыкі той ці іншай постаці або палітычнай плыні, за якую галасуюць.

А ў гэты час, пакуль выбаршчыкі прыслухоўваюцца да голасу свайго сэрца ці розуму, або проста давяраюць сваім сімпатыям ці інтуіцыі, палітычная кухня пачынае выпякаць свае блінчыкі з сюрпрызамі. Цэлая куча паліттэхнолагаў раяць кандыдатам што і як гаварыць, як махаць рукамі на трыбуне, як і каму ўсміхацца, каб прыцягнуць да сябе сімпатыі як мага большай колькасці выбарцаў. Усё дзеля іх галасоў.

Таму палітык ужо даўно не мае права гаварыць тое, што хоча. Каб выйграць выбары, ён мусіць гаварыць тое, што хочуць пачуць выбаршчыкі. Замкнёнае кола. І таму мы ўжо прывыклі да дыяметральна супрацьлеглых заяў кандыдатаў, якія на сустрэчы, прыкладам, з рэлігійнымі арганізацыямі заяўляюць што яны будуць змагацца за традыцыйныя сямейныя каштоўнасці, а на сустрэчах з сексуальнымі меншасцямі дэкларуюць сваю прыхільнасць да аднаполых шлюбаў.

Так у сённяшнім ілжывым свеце робяцца „справядлівыя" выбары. Крыху галасоў ад традыцыяналістаў, якіх удалося падмануць (яны ж такія традыцыйна даверлівыя), крыху ад сексуалістаў, якія не настолькі даверлівыя, але на падман з асаблівым цынізмам таксама вядуцца, і ўжо можна спадзявацца на справядлівы падлік. Як кажа старая народная мудрасць: „Са свету па нітцы — голаму кашуля".

Пра Беларусь і падобныя ёй краіны тут увогуле няма гаворкі. Няма ні грошай, ні часу, ні жадання і ні інтэлектуальных здольнасцей на ўсе гэтыя паліттэхналогіі. Тут усё вырашае сам падлік галасоў, які ведае дакладныя лічбы задоўга да пачатку выбараў. Таму цікавасць у выбаршчыкаў гэтых краін да сваіх выбараў увогуле адсутнічае. Яны больш цікавяцца выбарамі ў ЗША, чым у сябе. І правільна робяць.

Ад ужо вядомых вынікаў выбараў у Беларусі не зменіцца нічога ні ў самой Беларусі, і нідзе на свеце. А ад вынікаў выбараў у ЗША нічога не зменіцца толькі ў ЗША. У астатнім жа свеце ўсё можа памяняцца кардынальна. У тым ліку і ў Беларусі.

А ў ЗША з'явіўся Дональд Трамп, якому будзе супрацьстаяць Хілары Клінтан. Калі выйграе Клінтан, то ў свеце нічога не памяняецца. Палітычныя эліты свету гэта цалкам задавальняе. Яны някепска ўладкаваліся і мяняць нешта не зусім ахвочыя. А вось калі выйграе Трамп, то з ім можа і не ўдасца дамовіцца пра адсутнасць тых змен.

Можа таму паліттэхнолагі, якія і жывуць толькі з беспрынцыповасці сваіх палітыкаў ды атрымліваюць вялікія заробкі за свае шкодныя парады, сталі раіць моцным гэтага свету ўсім разам накінуцца на таго Трампа. Бо гэта яны казалі, што каб выйграць выбары ў Амерыцы, трэба заігрываць з феміністкамі, лацінаамерыканцамі, ісламістамі, усімі, якія з'яўляюцца меншасцямі, ну а большасць нібыта і складаецца з тых меншасцей. Трамп жа зрабіў наадварот і... выйграў першы этап...

Я не ведаю, якім будзе Трамп прэзідэнтам. Не ведаю і нават не ўяўляю, чаго ён больш наробіць — карысці ці шкоды. Але ўжо вядома, што ён зрабіў для планеты шмат. Ён даказаў на сваім прыкладзе, што ўсе гэтыя ілжывыя паліттэхнолагі і іх подлыя паліттэхналогіі нікому непатрэбныя. Ён зрабіў адваротнае таму, што яны раяць па ўсім свеце, і палову шляху прайшоў паспяхова.

Я ўжо за гэта даў бы яму Нобеля. Але не новага, а таго самага Нобеля, які далі Абаму. Увогуле, пара ўжо прыдумаць працэдуру адбірання неабдумана выдадзеных Нобеляў, і пошуку для іх больш вартых уладальнікаў. Думаю, што сам Альфрэд Нобель з энтузіязмам падтрымаў бы маю ініцыятыву.

І як беларускі выбаршчык я з цікавасцю буду сачыць за выбарамі, якія маюць непасрэдны ўплыў на сітуацыю ў Беларусі. Маю на ўвазе выбары ў ЗША.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Рэканструяваныя мроі

Праз чатыры гады будзем мець прэзідэнцкія выбары ў Польшчы. Давайце паўяўляем. Вяртаецца ў Польшчу Дональд Туск, выдалены з Бруселя еўрапейскімі палітычнымі элітамі. Там ужо ўсім надакучылі і Польшча, і палякі. Але больш гэтая Польшча «ПіСаўская», авантурысцкая і дэфекуючая нацыянальнай ксенафобіяй і палітычнай рыторыкай родам з дзевятнаццатага стагоддзя, чым тая з-пад знаку КОД і масавых вулічных пратэстаў у абарону дэмакратыі і плюралізму. Аднак, для еўрапейцаў не мае значэння тое, што кіпіць у польскім кацялку. Як бы там ні было, тое і так будзе заставацца цяжкатраўным. Не пракаўтнуць ім тае Польшчы парванай роўна напалову — так крайне ў ідэалагічным, як і палітычным плане. Польшчы нестабільнай, унутры раз'ятранай і палітычна ашалелай.

Да выбараў адзін год. Так што Туск мае час, каб крыху агарнуць у Грамадзянскай платформе тое, што цалкам папсуе Схетына, яе цяперашні старшыня. Калі, вядома, партыя да таго часу не знікне з польскай сцэны. Палітычны патэнцыял Дональда Туска, аднак, не абапіраецца толькі на партыйных структурах ці платформерскіх прыхільніках. Неабавязкова таксама тых, хто адчувае агіду да ПіСаўскага папулізму. Усё больш і больш палякаў пачынае сумаваць па ягонай «цёплай вадзе ў кране». Але і штораз менш радуецца «добрай змене» Яраслава Качынскага. Згодна чаканням усіх, да перавыбрання на прэзідэнта Рэчы Паспалітай рыхтуецца Анджэй Дуда. Той, аднак, здыме сваю кандыдатуру, і рэкамендуе на прэзідэнта... Яраслава Качынскага, які не без публічнага какецтва прыме ў рэшце рэшт прагна пальчатку, кінутую Тускам.

Шпацыр па лязе брытвы гэта бэтка ў параўнанні з тым, што чакае ўсіх — грамадзян, ці членаў народа? Быццам бы гэта нюанс, усё ж рэч вартая ўвагі, асабліва з улікам коштаў сацыяльна-псіхалагічнай унутранай вайны за Польшчу. Дастанецца ў ёй, так ці інакш, дарэчы, вельмі балюча ўсім. Таму што ніхто не будзе мець у гэтым меры. Можна чакаць вулічных беспарадкаў, фальшывак на выбарчых участках, гадзючных паклёпаў і вялікай маніпуляцыі грамадскай думкай. Гэта будзе час узаемнага знішчэння. Гэта будзе вайна на іклы і кіпцюры. І дзень выбараў стане часам сапраўднага Армагедона. Толькі што ў гэтай вайне не будзе ні пераможцаў, ні пераможаных, хаця пераможцы абвесцяць свой трыумф, а тыя, хто прайграў, балючую паразу. У рэшце рэшт руін, якія застануцца ад Польшчы, якую мы ведаем, немагчыма будзе адбудаваць. У лепшым выпадку можна будзе іх рэканструяваць. Так як варшаўскую «Староўку». Пустышку. Акрамя таго, наступствы польска-польскай вайны перамесцяцца ў іншыя краіны. Сучасны свет мае тонкую структуру, аналагічную сістэме са злучаных сасудаў. Вось тое, што адбудзецца ў Польшчы, будзе мець уплыў на тое, што, напрыкладад, здарыцца ў далёкай Партугаліі. У Еўрапейскім Саюзе ў цэлым. Ці проста — у Еўропе.

Пакуль, аднак, надыйдзе Армагедон, давайце падумаем, што яго магло б у відавочным выглядзе апярэдзіць. Адзінай умовай, каб Яраслаў Качынскі вырашыў хадайнічаць за пасаду прэзідэнта, з'яўляецца ранейшая змена Канстытуцыі, прадыктаваная ПіСам. Цікава, што многія вядомыя палітыкі гэтай партыі цікавяцца ў гэтым кантэксце дзеючай Канстытуцыяй Беларусі, умацоўваючай сістэму дыктатарскай прэзідэнтуры ў гэтай краіне. За пастулатам падобных канстытуцыйных змяненняў у Польшчы стаіць, што здаецца быць малаверагодным, але гэта больш чым верагодна, іх утапічная мроя пра Вялікую Рэч Паспалітую. Тую ад мора да мора. У партале «Віртуальная Палонія», хоць і палітычна не тоесным з Правам і справядлівасцю, але які адорвае яно сімпатыяй, нават прыдумалі новую назву для гэтага палітычнага суб'екта — Карона Рэчы Паспалітай! Я працытую фрагмент аднаго з характэрных артыкулаў, апублікаваных на гэтым сайце: «Рэканструкцыя Кароны Рэчы Паспалітай з'яўляецца пытаннем бліжэйшых пяці гадоў. Усе нашы краіны — Польшча, Літва, Беларусь і Украіна — на павароце гісторыі. У нас ёсць два шляхі — альбо мы будзем звышдзяржавай у Еўропе, або імперыі зноў сатруць нас з карты Еўропы».

І што чытачы «Нівы» скажуць на такое? На гэтыя... рэканструяваныя фантазіі? Ну, фантазіі — нязбытныя мроі, але дзень Армагедона не так і далёка. Так ці інакш.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Цягнікі на ўсход

Вельмі люблю падарожнічаць цягнікамі. З усіх сродкаў транспарту адчуваю там сябе найбольш камфартабельна. А калі ў падарожжы ў саставе цягніка будзе бар, дзе можна смачна перакусіць і выпіць легальна піва, дык зусім добра робіцца і для цела, і душы. Але спажыванне алкаголю, так як і курэнне, абсалютна забаронена на польскіх вакзалах і перонах. У апошнім часе прыйшлося мне пераехаць цягнікамі Польшчу, Чэхію, Аўстрыю і Славенію. У славенскай сталіцы Любляне ў кафейках на чыгуначным вакзале можна сабе каштаваць усе мацнейшыя напіткі, курыць папяросы ці шышу і не быць за гэта пакараным. А п'яных зусім не відаць.

Першае, што сустрэла мяне ў час апошніх падарожжаў, то спазненні цягнікоў. Былі яны толькі ў польскай чыгункі, хаця праз аніякія высокі горы мы не ехалі, як у Аўстрыі ці Славеніі. Проста, нешта не спрацоўвае: а то рамонты дарог, а то тэхнічныя праблемы новых цягнікоў, а то ўкралі электраправады над рэйкамі. Але памаленьку відаць, што ўсё ж такі зруйнаваная гадамі чыгуначная інфраструктура падымаецца з каленяў за еўрапейскія грошы. І чыгуначны транспарт, таварны і пасажырскі, становіцца важным эканамічным фактарам польскай дзяржавы.

Тое аднак, як была зруйнаваная чыгунка пасля 1989 г., аж надта відаць у нас, на Падляшшы, асабліва ў паўднёва-ўсходняй частцы, дзе пражывае наша беларуская меншасць. Калі чыгунка гэта самы экалагічны транспарт, то нейк не відаць і не чуваць акцый эколагаў, якія б жорстка патрабавалі вярнуць, напрыклад, маршрут Белавежа — Гайнаўка — Бельск — Беласток. Затое ганяюцца яны на сваіх машынах у Белавежу, выкідваючы з выхлапных труб дым, які развейваецца ў пушчанскім лесе, за ахову якога едуць пратэставаць. А так маглі б даехаць і вярнуцца цягніком. І ўсе былі б задаволеныя — самаўрадцы, эколагі, турысты, жыхары Падляшша.

Таму з задавальненнем успрыняў я інфармацыю пра тое, што самаўрад Падляшскага ваяводства са сваімі літоўскімі калегамі будзе дафінансоўваць сезонны маршрут Беласток — Коўна. Паводле папярэдніх звестак, дарога зойме каля пяці гадзін. Ну і грошы знайшліся, і ўладам ёсць чым пахваліцца, адтрубіўшы ў медных поспех. Аднак падляшскім маршалкам і чынавенству, якія так патрабуюць грошай для нашага рэгіёна, хачу звярнуць увагу, што напэўна больш людзей прыехала б з Гродна, а не з Коўна. Таму ў рэшце рэшт трэба вярнуць некалькі цягнікоў па маршруце Беласток — Гродна. Аднак для іх гэта справа не да вырашэння. Дык прашу не рабіць паказушных канферэнцый пра адкрыты на ўсход Беласток, ці нейкія вароты, ці брамы ўсходу. Бо пакуль, гэта толькі палітыка сляпога ўсходняга пуці, які вядзе ў тупік. Варта было б, каб нашы гарадскія і ваяводскія ўлады паслухалі, што пра такую іх бяздзейнасць думаюць жыхары Беластока і Гародні, якія цягніком без памежных чэргаў маглі б сабе падарожнічаць. Мой сябра, прыхільнік змоўніцкіх тэорый у гісторыі і бізнесе, увесь час тлумачыць, што, відаць, беларускае, маршрутнае і польскае аўтобуснае лобі абкруціла вакол пальца польскіх чыноўнікаў і палітыкаў. Таму не дачакаемся пасажырскіх цягнікоў з Беластока на ўсход. А гэты цырк пра той маршрут, які нам фундуюць пры нагодзе змены раскладу руху цягнікоў, то ўжо слухаць не хочацца. Увогуле зусім безнадзейнай справай з'яўляецца думка, напрыклад, пра маршрут Беласток — Чаромха — Брэст ці Чаромха — Гайнаўка — Семяноўка — Ваўкавыск. А неабсяжнай марай гэта сёсці ў Беластоку і даехаць у Пяцярбург. Традыцыя варшаўска-пяцярбургскай чыгункі павінна забаўляць. Пакуль мы, як Падляшскае ваяводства, не звяжамся з усходняй, пасажырскай, чыгуначнай сеткай, то размовы пра ўсходніх гандляроў і турыстаў з часам застануцца толькі ўспамінам.

**Яўген ВАПА**

**Ёсць. „Басовішча” і іншае**

1990 год гэта таксама першы год, калі БАС арганізаваў Фестываль „Басовішча” — самы вялікі і маштабны праект арганізацыі. „Басовішча” з'явілася для БАС вызначальным фактарам у дзевяностыя гады. Пераведзена была афіцыйная сядзіба арганізацыі з Варшавы ў Беласток. Спад грамадскай дзейнасці (1991-1995) абмяжоўваў рэалізацыю ініцыятыў БАС да „Басовішча”, рэйдаў „Бацькаўшчына”, атрасінаў, калядных сустрэч і „купалляў”. Сітуацыя не памянялася і ў наступныя гады. Можна сказаць, што дзевяностыя гады прынеслі пераасэнсаванне ідэі БАС. Калі ў васьмідзясятыя гады студэнты-беларусы імкнуліся стварыць масавы, палітызаваны рух маладой інтэлігенцыі, у дзевяностыя БАС як арганізацыя стаў платформай рэалізацыі ўласных праектаў нешматлікай групкі студэнтаў. Працягваючы некаторыя праекты з мінулага („Бацькаўшчына”, „купаллі”, атрасіны), грунтуючыся на супрацоўніцтве пры арганізацыі „Басовішча”, беларускія студэнты здаваліся адыходзіць ад планаў ахапіць сваёй арганізацыяй усіх студэнтаў з Беласточчыны. Некаторыя праекты звязаны былі з пэўнымі гурткамі асоб-аднагодкаў (як, напрыклад, супрацоўніцтва са Задзіночаннем беларускіх студэнтаў з Беларусі пад канец 1990-х гадоў), ды не працягваліся іхнімі арганізацыйнымі пераемнікамі. Напрыканцы дзевяностых гадоў назіралася нейкае ажыўленне БАС. Узмацніліся два асяродкі — Беласток ды Варшава, БАС адкрыўся болей на асяроддзе беларускіх эмігрантаў, якія па палітычных прычынах прыбывалі ў Польшчу. Пры дапамозе варшаўскага гуртка БАС заснаваны быў Інстытут беларускай культуры — арганізацыя палітычных уцекачоў і эмігрантаў з Беларусі. Перамены, якія прайшлі на беларускай філалогіі ў Варшаве (рост ліку этнічных палякаў, якія вучыліся на гэтым факультэце) давялі да болей адкрытага супрацоўніцтва з польскімі студэнтамі ў рамках навуковых гурткоў.


Фота Міры Лукшы

(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)







Фота Міры Лукшы

Уздым дзейнасці беларускіх студэнтаў напрыканцы васьмідзясятых гадоў вёў да далейшага развіцця формулы студэнцкай арганізацыі. Можна сказаць, што БАСаўская дзейнасць, якая пачыналася з турыстычных паходаў, вечарын, „атрасінаў” — пераходзіла паступова ў болей сталую дзейнасць, як назіралася гэта ў выпадку часопіса „Сустрэчы” ці пашыранага супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі. Члены БАСу мелі магчымасць прыняць удзел у работах камісіі па пытаннях нацыянальных меншасцей пры „Салідарнасці”. Заадно студэнцкае асяроддзе прыняло ўдзел у палітычных дзеяннях, так рэгіянальнага, беластоцкага ўзроўню, як і міжнароднага. У маі 1989 г. беларускія студэнты падаюць адкрытае пісьмо ў БССР, у якім заклікаюць спыніць у СМІ атакі на дзеячаў нефармальных арганізацый у Савецкай Беларусі ды выказваюць падтрымку беларускіх студэнтаў — грамадзян Польшчы адраджэнскаму руху ў суседняй рэспубліцы. Наладжана было супрацоўніцтва з Канадскім таварыствам „Беларусь”, нью-йоркскім танцавальным гуртком „Васілёк”, Арганізацыяй беларуска-амерыканскай моладзі. У выніку сустрэч наладжаны былі кантакты з прадстаўнікамі незалежных арганізацый з БСРР, такіх як, напрыклад, Гарадзенскі клуб „Паходня”, „Талака”, Беларускі народны фронт „Адраджэнне”. Аднак найболей яркую дзейнасць БАС праяўляла на Беласточчыне. Таму грамадскі ўздым таго часу вынес на першы план якраз нацыянальнае пытанне, што зводзілася да арганізацыі беларускай палітычнай партыі — Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, увядзення ў культурна-народнае жыццё беларускай нацыянальнай сімволікі, ушаноўвання важных гістарычных падзей.

**З запаведніка ў нармальнасць**

У палове снежня 1989 г. у Беластоку адбыўся II агульны сход БАС, якога важнай пастановай была арганізацыя фестывалю музыкі беларускай моладзі ў Гарадку **„Басовішча”**. Паводле Аляксандра Максімюка назву фестывалю — „Басовішча” прыдумаў Алег Латышонак і выказаў яе ўпершыню ў Бельску-Падляшскім 2 снежня 1989 г. На сустрэчы сяброў арганізацыі ўвогуле і нараджалася ідэя самога фестывалю. Планаваны тады фестываль адрозніваўся ад іншых такога тыпу мерапрыемстваў ладжаных у Польшчы. Першае, што значна акрэслівала гэты музычны марафон, гэта яго нацыянальны дух. Сведчыць пра гэта хаця б артыкул Валянціна Сельвесюка **„Выхад з запаведніка”**, у якім прадстаўляе ён сітуацыю беларушчыны на першым выпуску фестывалю. „Басовішча” было месцам, дзе свабодна і натуральна гучала беларуская мова, фестываль поўніўся нацыянальнай сімволікай (бел-чырвона-белыя сцягі), а ўсё гэта адбывалася ў перыяд нацыянальнага прабуджэння беларусаў Беластоцкага краю, але і ўздыму нацыянальнай ідэі ў БССР. Такая экспрэсія сваіх нацыянальных пачуццяў, прытым у маладзёжнай формуле, была ў тадышнія часы чымсьці зусім новым і незвычайным на Беласточчыне. Чарговым, вельмі важным фактарам ідэі „Басовішча” была сучаснасць. Манаполія „фальклорнага запаведніка” (сітуацыя, калі жыхары гарадоў за адзіную сваю культуру маюць толькі вясковую спадчыну, якая не прыстае да іхняй бытавой сітуацыі) адмоўна, паводле студэнтаў, уплывала на беларускае асяроддзе, таму ладжаны імі фестываль меў змяняць разуменне беларускай музыкі.

На „Басовішчы” прагучала сучасная музыка. Сучасная, бо створаная ў сучасны момант. Сучасная ў разуменні сучаснай формы і ў разуменні сучасных праблем. Сучаснай была таксама публіка. Адукацыя і змена спосабу жыцця малодшай часткі беларускага насельніцтва ў Польшчы патрабавала новых культурных формул. Студэнцкім адказам на так пастаўленае пытанне быў якраз фестываль рок-музыкі, канцэрты бардаў, як такой, якой нармальна зацікаўлена было пакаленне пераломy васьмідзясятых і дзевяностых гадоў. Тым самым меўся адбыцца і згаданы „выхад з запаведніка” ў нармальнасць. Першае „Басовішча” арганізавалася, калі існаваў Савецкі Саюз. Атмасфера нацыянальнага ўзбуджэння ў Менску праявілася шматлюднай групоўкай падсавецкай моладзі на гарадоцкім фестывалі. Тым самым урочышча Барык стала месцам яднання маладых беларусаў, так з польскага, як і савецкага бакоў мяжы, выяўлення сваіх жыццёвых пазіцый. У ідэйных асновах „Басовішча” леглі і самыя важныя спадзяванні беларускага адраджэння. Арганізацыйную групу першага „Басовішча” (тады пад назвай Фестываль музыкі беларускай моладзі) складалі найболыш актыўныя дзеячы БАС. Арганізацыйны талент выявіла тады Барбара Кучынская, студэнтка Медыцынскай акадэміі ў Беластоку, якой даручана была функцыя мастацкага кіраўніка. Праявіліся таксама Валянцін Сельвясюк, які прабываў тады ў ЗША, Анна Матысюк, Аляксандр Карпюк, Міраслаў Пякарскі, Мікола Ваўранюк, Вячаслаў Харужы, Аляксандр Максімюк ды тадышні старшыня БАС Яўген Вапа...

**І фінансы**

Першы выпуск „Басовішча” стаў узорам для чарговых. Спрацаваўшая формула аказалася плённай, у час чарговых выпускаў гуртавала ў падгарадоцкім Барыку штораз большую колькасць публікі. На доўгія гады ўкаранілася мадэль двухдзённага фестывалю, арганізаванага ў тым самым месцы, пры дапамозе мясцовай улады. У колькасці грошай найбольшую квоту ўнеслі цэнтральныя ўлады Польшчы. Паказвала гэта змену пазіцыі Варшавы ў адносінах да беларускай нацыянальнай меншасці. Трэба тут адзначыць, што па сённяшні дзень галоўным спонсарам „Басовішча” з'яўляюцца польскія міністэрствы адказныя за культурнае жыццё нацыянальных меншасцей. Умова атрымання дзяржаўнай дапамогі з квоты на нацыянальныя меншасці патрабуе падавання штогод дэталёвага праекту мерапрыемства, у якім акрэсліваюцца планаваныя кошты кожнага з бюджэтных пунктаў фестывалю. Як галоўны спонсар у чарговыя гады „Басовішча” выступала перш за ўсё Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі...

**Ганна Пякарская,** цяперашняя старшыня БАС: — Наша арганізацыя некалькі гадоў таму перажывала цяжкія часы, мы не ведалі, вытрывае яна ці не. А зараз атрымалася так, што амаль з усімі праблемамі мы развіталіся. Для арганізацыі пачынаецца новае жыццё. Спадзяемся, што прыйдуць новыя людзі, са свежымі ідэямі і энергіяй. Пакуль БАС — гэта „Басовішча”, але мы стараемся арганізоўваць і іншыя мерапрыемствы. Памалу развіваемся. Для нас 35 год БАСу не проста юбілей, а нагода падумаць пра нашу будучыню.

**Ігар Варашкевіч** з гурта «Крама»: — Мы ў прынцыпе бывалі толькі на „Басовішчы” і больш у нас канцэртаў не было і ў Беластоку ў нас ніколі не было канцэрта. Бывалі мы яшчэ як «Бонда» ў Варшаве і ў Гайнаўцы (наш юбілей — трыццацігоддзе), а як «Крама» (наш юбілей — дваццацігоддзе) бывалі на «Басовішчы», былі ў Варшаве і між іншым у Вроцлаве, а ў Беластоку — ніколі не выступілі. Гэта таксама наш юбілейны канцэрт, граем і старыя, і новыя песні, але будзе і бондаўская «Стэфка» і «Слуцкая брама», а таксама песні з новага альбома. Віншуем!

(лук)

## Цяжка купіць „Ніву” ў Беластоку

Так заўважаю, што штораз цяжэй купіць „Ніву” ў Беластоку. Калісьці ў маім раёне горада можна яе было купіць у трох крамах, на пошце і ў вулічным кіёску, а таксама ў кіёску ў будынку маркета „Стакротка”. А зараз тыднёвіка няма ні ў „Стакротцы”, ні ў краме, ні ў кіёсках. Раз я выбраўся на беластоцкі аўтавакзал. Там, здаецца, штодзень круціцца многа людзей, да таго нашых, з ваколіц Бельска, Гайнаўкі, Саколкі ці Гарадка. Але ў кіёску пры прыпынку гарадскога транспарту „Нівы” не было. Не было яе таксама ў салоне прэсы „Kolporter”, ні ў кіёску ў сярэдзіне аўтавакзала пры дзвярах ля выхаду на пероны ПКС. Не знайшоўшы „Нівы” на беластоцкім аўтавакзале, пайшоў я на беластоцкі чыгуначны вакзал. Там у сярэдзіне вакзальнага будынка працуюць тры кіёскі і ў ніводным нельга купіць „Ніву”. Прадаўцы тлумачыліся, што калісьці яе атрымлівалі, а зараз не дастаўляюць ніводнага экземпляра. Выйшаўшы з чыгуначнага вакзала, завітаў я на суседнюю пошту. Там сказалі мне, што калісьці „Ніву” атрымлівалі, але ніхто яе не купляў, дык перасталі яе заказваць. І так я наведаў не адзін беластоцкі кіёск, дык не знайшоў ні аднаго экземпляра „Нівы”. А ў Бельску ці Орлі на поштах сустрэў „Ніву”.

Ну што ж, зараз не толькі „Ніва”, а наогул нават польскамоўная прэса ў Польшчы перажывае крызіс. Пісанае слова прайгравае з электроннымі СМІ: тэлебачаннем і інтэрнэтам. Людзі перасталі купляць газеты, таму і закрываюцца кіёскі з прэсай. А газеты падаражэлі, таму чытачы купляюць старыя газеты на галерэі „Madro”. Там за сімвалічную залатоўку можна купіць нумар любой газеты з мінулага тыдня, якой свежы нумар каштуе 5-7 злотых. Ну што ж, мінулі часы, калі за „Нівай” людзі стаялі ў чарзе, як за камуны за каўбасой. Зараз многія газеты ў Польшчы маюць штораз менш чытачоў.

**Юрка БУЙНЮК**

## Іван Супрунчык в Мельнікові

19 чэрвеня 2016 р., в дэнь Св. Тройцы, Пудляшэ наведае Іван Супрунчык, одна з найцікавшых осуоб артыстычного света белорускэго Полеся. Малюе, рэзбіт в дэрві і опісує росказамі свою країну. Од народжэння в 1942 р. жывэ в сэліе Церэблічы коло Століна, росположэнуй на краю слынных Ольманскіх болот (Беларусь). Тут вэдэ артыстычно-этнографічну галерэю. Дорогу до Церэбліч знают любітелі традыцыйнуй културы Полеся з разных краюв світа. На основі твуорчості Івана Супрунчыка быв выданы альбом і накручоны документальны фільмы.

Вэрнісаж выставы робуот Івана Супрунчыка одбудэцце 19 чэрвеня 2016 р., о год. 14.30 в музеёві в Мельнікові (Ośrodek Dziejów Ziemi Mielnickiej, ul. Brzeska). Артыста роскажэ про цыклі своіх рэзьбув і рысункув, которы показуют звычаі, обрады і філософію народу. Музычно вэрнісаж оформіт група „Дзятлавіцкі пралесак” з Дзятловіч коло Лунінца і студзіводска „Жэмэрва”.

Організатором выставы, в рамках Белорускіх этнографічно-музычных варштатув на надбужанскуй зэмліе е Товарыство Музей малэйі батькувшчыны в Студзіводах і музей в Мельнікові. Зрэалізовано пры фінансовуй пудтрымцы Міністэрства унутраных справ і адміністрацыі.

**Дорофіей Фіонік**

# 65 гадоў Самаўрадаваму садку № 14 у Беластоку

**Гэтае прадшколле ніколі не было толькі навучальнай установай. Гэта асаблівае месца, створанае пакаленнямі настаўнікаў-энтузіястаў, вучнямі і іхнімі бацькамі. Самаўрадавы садок № 14 з польскай і беларускай мовамі навучання ў Беластоку адсвяткаваў юбілей 65-годдзя існавання.**



Дырэктар садка Луцыя Неміровіч





Кожная гадавіна злучае мінулае з будучыняй, традыцыі з сучаснасцю, досвед працы з маладосцю. А прадшколле № 14 ніколі не было толькі навучальнай установай. Вакол яго заўсёды збіраліся творчыя, крэатыўныя, патрабавальныя, адкрытыя і адчувальныя на патрэбы дзяцей людзі. І так засталося па сёння.

Прадшколле № 14 з'яўляецца вялікім прыхільнікам ідэі талерантнасці, якая ўказвае напрамак дзеяння, накіраваны на акцэптацыю другіх. Паколькі яго асноўнай мэтай з'яўляецца падтрымка ў развіцці дзяцей, адначасова беручы пад увагу прысутнасць беларускай мовы, перад настаўнікамі стаіць таксама задача ўсведамлення дзецям іхняй этнічнай прыналежнасці да народа. У гэтым прадшколлі выхаванне нацыянальнай самасвядомасці ажыццяўляецца ў кожную хвіліну: у гульнях, у розных відах дзіцячай дзейнасці, формах актыўнага адпачынку.

— Вельмі цешымся, што можам працаваць з дзецьмі, якіх бацькі хочуць культываваць традыцыю дзядоў і прадзедаў, — адзначыла дырэктар садка Луцыя Німяровіч. — Пазнаваць беларускую культуру, спяваць беларускія песні і вучыць дзяцей, каб яны лічылі сябе беларусамі.

Садок № 14 гэта прыгожая гісторыя, выдатная сучаснасць, але і таксама будучыня. Гэта не толькі будынкі, дзіцячая пляцоўка, праграмы, праекты, задачы, поспехі, але таксама вартасныя настаўнікі. Менавіта гэтую непаўторную рэчаіснасць ствараюць людзі, якія сваёй штодзённай, цяжкай працай стараюцца быць маральнымі і талерантнымі. І гэтае стаўленне, так характэрнае для працаўнікоў прадшколля, падкрэсліваў у сваім выступленні і пробашч парафіі св. Роха ў Беластоку Тадэвуш Жданук жадалі благаслаўлення Божага, моцы і стойкасці ў штодзённай працы. Дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве Міхаіл Рыбакоў выказаў спадзяванне, што дзякуючы дзейнасці беларускага садка беларускасць на Беласточчыне не загіне.

Францішак Гурскі з Кураторыі асветы ў Беластоку, які таксама звярнуў увагу на неабходнасць існавання прадшколля з беларускай мовай у сталіцы Падляшша: „Вельмі добра, што такое прадшколле паўстала. Важнае, каб дзеці з самага пачатку маглі вучыцца сваёй мове. Гэта неабходнае для захавання адметнасці і пабудовы пачуцця ўласнай тоеснасці”.

Дзейнасць школы і яе наймацнейшыя бакі наблізіла тлумна сабраным гасцям мультымедыйная прэзентацыя, якая ўсведамляла, што педагогі прадшколля надаюць вялікае значэнне выхаванню сямейных каштоўнасцей і жаданню разумець і размаўляць на роднай мове. Пасля мультымедыйнай прэзентацыі дырэктар садка Луцыя Німяровіч падзякавала ўсім былым і цяперашнім працаўнікам установы, а таксама тым, якія прычыніліся да яе развіцця.

Мерапрыемства ўзбагаціла артыстычная частка, якая пачалася з выступлення вучаніцы прадшколля. Дзяўчынка дэкламавала верш нашай журналісткі і вядомай паэтэсы Міры Лукшы, якая адмыслова напісала яго з нагоды юбілею. Госці маглі пабачыць пастаноўку, падрыхтаваную Аннай Бабік паводле сцэнарыя таксама Міры Лукшы. Пасля такой дозы добрага гумару запрошаныя выслухалі выступленні ганаровых гасцей. Архіепіскап беластоцка-гданьскі Іакаў

— Менавіта стуль пачынаюцца самыя добрыя, самыя цёплыя адносіны да беларускай культуры і беларускай спадчыны, — адзначыў Міхаіл Рыбакоў у час сваёй прамовы.

Чаго можна жадаць Самаўрадаваму садку № 14 у такой важнай хвіліне? Вядома ж, чарговых 65-ці гадоў існавання. Як і дагэтуль фантастычных вучняў, а таксама верных і адданых бацькоў. Дырэктарка садка Луцыя Німяровіч у сваім выступленні адзначыла, што гады працы ў школе гэта найлепшыя прафесійныя гады ў яе жыцці. Настаўніцы, у сваю чаргу, падкрэслівалі, што праца ў садку з так багатай традыцыяй забаўвязвае да вернасці ідэалам яго ранейшых працаўнікоў і заснавальнікаў. Луцыя Німяровіч запэўнівала, што прыкладаюцца ўсе намаганні, каб чарговыя пакаленні выпускнікоў прадшколля не страцілі кантакту з культурай, традыцыяй і мовай сваіх продкаў. Вядома, ніхто не чакае ад выхаванцаў садка дарослых форм нацыянальнай свядомасці. Але калі ў выніку педагагічнай працы ў час юбілею госці маглі ўпэўніцца, што дзеткі ведаюць імёны тых, якія праслаўляюць беларускую культуру на Падляшшы, спяваюць беларускія песні, дэкламуюць вершы, адным словам, адлюстроўваюць свае ўражанні ў прадуктыўнай дзейнасці, можна лічыць, што задача — выкананая.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

# Тэрэса не мяняе імя



■ Тэрэса Радзевіч (злева) і Гражына Харытанюк-Міхей

**Тэрэса Радзевіч** — лаўрэатка шматлікіх конкурсаў паэзіі. Друкавалася, між іншым, у „Студыюм", „Тыглі культуры", „Артэрыях", „Про артэ", „Нататніку сатырычным", „Фразе", „Топасе". Яе дэбютны том вершаў „Лева строна" стаў лепшай кніжкай 2009 года на Падляшшы і атрымаў Літаратурную прэмію Прэзідэнта горада Беластока імя Веслава Казанэцкага.

Пра творчасць гэтай несумненна таленавітай паэтэсы ведаюць далёка не ўсе. Праўду кажучы, найбольш па-за межамі нашага ваяводства і толькі пяты том яе паэзіі выйдзе друкам у родным Беластоку. У ліку прыхільнікаў таленту спадарыні Радзевіч, між іншым, навуковая працаўніца Універсітэта ў Беластоку доктар Гражына Харытанюк-Міхей. Выкладчыца рашыла распаўсюдзіць творчасць паэтэсы прынамсі сярод студэнтаў паслядыпломнага курса анімацыі чытання, навуковай інфармацыі і бібліятэчнай справы. Тым больш што спадарыня Тэрэса з'яўляецца адной са студэнтак таго ж курса. На зладжанай там аўтарскай сустрэчы паэтэса гаварыла між іншым пра

**першыя крокі.**

Заўсёды здавалася, што вершы пішуць усе. Свае першыя паэтычныя радкі запісала ў ліцэі на старонках старых дзённікаў. Мілыя ўспаміны. Сур'ёзная творчасць пачалася ў 2002 годзе. Тады за намовай знаёмай пачала публікаваць на сайце „Паэзія польская". Гэта быў добры, літаратурны варштат з магчымасцю штотыднёвага публікавання і строгай крытыкі чытачоў. Пісала таксама і ў іншыя сайты. Адным падабалася, іншым не. Тэкстаў назбіралася сапраўды шмат. Тады рашыла адаслаць іх у неіснуючы ўжо кракаўскі літаратурны часопіс „Студыюм". На самой справе публікацыю вершаў у тым жа часопісе лічыць сваім сапраўдным, сур'ёзным дэбютам. Быў 2006 год. Магла ўжо пахваліцца першым месцам у катэгорыі дэбюты ў літаратурным конкурсе імені Галіны Пасвятоўскай у Чанстахове. Дрыжала ад хвалявання ў час урачыстасці ў тэатры імя Міцкевіча. Поўная зала, на сцэну выходзіць акцёр, адкрывае сшытак і пачынае чытаць яе верш. Незвычайная і нечаканая падзея.

**З ветрам у ветразі**

Конкурсаў і вершаў назбіралася сапраўды шмат. Дзякуючы ім пазнавала сябе. Пазітыўныя, у асноўным, водгукі з боку чытачоў заахвочвалі да далейшай творчасці. 2009 год запісаўся годам „Левай строны". Прапанова яго выдання выйшла ад Лодзінскага літаратурнага аб'яднання імя К.К. Бачынскага. Цэлы наклад — 300 экземпляраў разышоўся на працягу года. Спадабалася таксама Янушу Тараненку, з якім пазнаёмілася, дзякуючы прафесару Дар'юшу Кулешу. Неўзабаве зборнік „Лева строна" паявіўся на літаратурнай сустрэчы ў Падляшскай ксёнжніцы, а пасля, таксама па ініцыятыве Тараненкі, атрымаў намінацыю да прэміі імя Казанэцкага. Абяцала сабе не выдаваць кніжак на свой кошт. Не ідзе тут пра скупасць. Папросту хацела, каб нехта іншы рашаў ці варта чытаць яе творчасць ці не. Зараз пасля „Левай строны" лодзінская „Квадратура" запрапанавала апублікаваць „Соня мяняе імя" — сентыментальныя вершы, акрашаныя незвычайнымі ілюстрацыямі ў рэдкай тэхніцы лазурку аўтарства Магдалены Масквы. Чарговая ўзнагарода — у гэты раз на конкурсе ў Олькушы. Там таксама выдаюць зборнік „Самасейкі". Апошняя кніжка „Рэчы паспалітыя" выйшла ў 2014 годзе ў Варшаве. Апошні зборнік, яшчэ без загалоўка, рыхтуюць у Беластоцкай філалагічнай калекцыі.

**Варштат**

Каб выдаць кніжку недастаткова толькі напісаць вершы. Кожны раз вядзе барацьбу з тэкстамі, папраўляе, парадкуе. Стараецца, каб цэласць распавядала пра нейкую гісторыю ад пачатку да канца, каб тэксты размаўлялі з сабой.

**Генеалогія**

„Лева строна" — дзеяч правай партыі запытаў ці гэта палітычная кніжка. На левым баку знаходзіцца сэрца, падшэўка, пачуцці, таямніцы і падружанастоцкая вёска Садова з „маімі бабулямі мёдаплаўнымі". „Лева строна" гэта свет яе продкаў. Не думае ад яго ўцякаць ні супярэчыць. У маміным Садове і бацькавым Крапіўне гаварылі па-просту. Па-польску пачыналі размаўляць толькі ў школе. У Крапіўне паўстаў нават сайт „Гавары па-свойму" з нейкім слоўнікам. Яна ўжо гаворыць толькі па-польску. Спробы перакладу яе верша з томіка „Левы бок" на беларускую мову аказаліся сугучнымі з арыгіналам. Гэта заслуга перакладчыцы Міры Лукшы, якая паходзіць з аднолькавага культурнага кола. Немагчыма зразумець і ўбачыць „Левую строну" не жывучы тут.

**Нараджэнне**

У галаве паўстаюць асацыяцыі, матывы найчасцей звязаныя з культурным і прыродным каларытам Садова. Носіць іх быццам цяжарнасць, пакуль не даспеюць, не выклічуць патрэбы іх запісання. Чым даўжэй піша, тым становіцца гэта больш складана. Мабыць таму, што ведае больш. Калі ўжо ўсё запісана, пачынаецца выхаванне, значыць праца над тэкстам, папраўкі, выкіданне непатрэбных слоў. Кожнаму таленту неабходная праца. Сустрэла пішучых, якія нічога не чытаюць, каб не інспіравацца. У выніку выломліваюць даўно адкрытыя дзверы, вяртаюцца ў Маладую Польшчу, рамантызм. Сутнасць заключаецца ў тым, што чым больш чытаеш, тым становішся больш непаўторным.

**Проза**

Напісала некалькі апавяданняў. Адно з іх „Ганарата з Садова" апублікавалі ў лодзінскай „Артэрыі". Проза патрабуе абсалютнай дысцыпліны. Пасля некалькіх дзён перапынку доўга вяртаецца ў свет з апавядання.

**Любімыя кніжкі**

Чытаць пачала недзе ў чатырох-пяцігадовым узросце. Заўсёды любіла чытаць і заражаць гэтай „хваробай" іншых. Цяпер захапляецца прозай Маркеса, Мысліўскага і Муракамі. Рэкамендуе паэзію Герберта і менш вядомага, калісь пражываючага ў Беластоку Пятра Кусьміркa, Пшэмыслава Аўчарка і сувальчанкі Мажанны Багумілы Келар.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

## Як родная мова выратавала ў дарозе

Не хачу забыцца пра гэтае здарэнне! Яно падымае на духу і дадае моцы. Гэта здарылася на самай гладкай дарозе. Дакладна, два кіламетры перад Войшкамі, што ў Юхнавецкай гміне. Разам з сяброўкай вярталіся мы з Бельска ў Беласток. Зялёны прынарваўскі краявід, як цудоўны бальзам, супакойваў і застаўляў думаць пра прагрэс і еўрарамонты. Гэта з-за новага асфальтавага палатна, якое паклалі на месцы разрэйданай, памятаючай гады вайны, бруканкі.

І раптам сярод палёў-лугоў наша машына стала дохнуць, дрыгаць, губіць хуткасць. Кончылася паліва...

Неяк пашчасціла па гладкім як шклянка шасэ дакаціцца ў Войшкі. Можа тут хто паратуе!? У магазіне, на пачатку вёскі, нас праінфармавалі, што няма аўтазапраўкі. Дзяўчына, якая самотна тырчала за прылаўкам, не ведала што падказаць: — Nowa, nietutejsza jestem! У сяле, што цягнецца кіламетр, панавала мёртвае абязлюдзенне. Толькі ў канцы мы пабачылі мужыкоў, якія рамантавалі плот. Мая знаёмая з непрыхаванай трывогай спытала, дзе можна дастаць паліва. Але тыя адказалі: — U nas nie ma! І далей майстравалі пры штыкетах. Нават не глянулі ў наш бок. Справа выглядала безнадзейна.

— А можа хто ў вёсцы касілку мае? Можа які запас паліва ў яго будзе? — я рашыла яшчэ штосьць сказаць. Апускаць рукі ў такой хвіліне — яшчэ большая параза і правал. Я пачала прыгожа прасіць:

— Паратуйце, хлопцы! Мы не ведалі, што так атрымаецца. Хацелі па вашай новай дарозе праехацца, ну і «праехаліся»!

На момант запанавала глыбокае маўчанне. Мужчыны, быццам па ўзмаху чарадзейнай палачкі, павярнулі ў наш бок вочы. Уважна і з цікавасцю разгледзелі нас. Пасля глянулі на нумары машыны. Ды нават відавочна ажывіліся, сталі жартаваць з няшчаснага аўто:

— А знаетэ, што значыт BSK? — спытаў адзін туземец.

— Знаем, знаем!

(Для тых хто не ведае: калі нумары машыны пачынаюцца літарамі BSK, гэта, паводле беластоцкіх жартаўнікоў, абазначае што, за рулём сядзіць «bardzo słaby kierowca»).

Мы адчулі, што справа ідзе ў добрым напрамку і каб яшчэ больш спадабацца мужчынам з Войшак, мы паківалі галоўкамі ў знак згоды:

— Гэта праўда! Гэта ўсё праўда!

Так ці інакш мясцовыя накіравалі нас да спадара Валодзі Ляхоўскага. Гаспадар без лішніх пытанняў і торгаў прадаў нам патрэбную колькасць паліва. На месцы аказалася, што немагчыма яго пераліць у бак, супрацьдзейнічаў нейкі тормаз. Але спадар Валодзя на ляту прыдумаў спосаб. Ён схадзіў у свой шпіхер, прынёс прылады і спраўна напоўніў наш бак палівам. Уразілі спрыт і вынаходлівасць — гаспадар меў толькі адну здаровую руку...

Мы ўздыхнулі з палёгкай ды развіталіся ў сардэчных паклонах. Вядома, расхвалілі ўсе кветкі ў агародчыку спадарыні Ляхоўскай. Жонка спадара Валодзі назірала ўсю аперацыю спачатку праз акно, а пасля са сходкаў. Так ці інакш, мы былі глыбока ўдзячныя за дапамогу. Па дарозе яшчэ раз спыніліся ля рамонтнай брыгады, каб заявіць пра ўдачу і сказаць: — Dziękuję i przepraszam! У адказ нам ветліва памахалі і таксама адказалі свойскім кодам: — Едьтэ з Богом!

А зараз загадка. Што мы зрабілі, каб наша бяда і клопат сталі чыстай радасцю і натхняльным успамінам? Спадар Валодзя, калі пабачыў, што нумары машыны пачынаюцца з літар BSK, таксама ўсцешыўся. Ён паказаў нам сваю сажалку, дзе плавалі тоўстыя карпы.

— Я іх набыў у Саколцы, — сказаў з гонарам, так як калісь мужчыны гаварылі пра свайго каня. Карацей, калі конь быў добры і паслухмяны, гэта прыносіла славу для таго сяла, дзе яго купілі...

Так што дапамаглі нам рыбы з Саколкі. А яшчэ больш родная мова. Мы, папраўдзе, нічога не рабілі, каб выклікаць метафізічны момант, то-бок адвярнуць клапатлівую прыгоду ў добры бок. Хапіла адазвацца па-свойму!

Ганна КАНДРАЦЮК



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Бабуля і бярозы

«Я яшчэ памятаю гэтае паветра, якое пахла бярозамі. Дакладна памятаю кожную нядоўгую хвіліну на маёй роднай зямлі... на Беларусі...

Я нарадзілася на Беларусі ў вёсцы Тушамля. Я была наймалодшая ў сям'і. У мяне была сястра Валя і брат Коля. Я так моцна кахала свайго бацьку. Ён быў заўсёды каля мяне. Мы разам часта гулялі, асабліва ляльkamі, якія бацька для мяне сам рабіў.

Але з часам усё змянілася. Пачалася II сусветная вайна. Бацьку забралі ў армію. Хата без бацькі не была ўжо той самай вясёлай, шумлівай хатай. Аж надышоў дзень, калі ён вярнуўся! Яго ранілі ў баі, але я і так была тады найшчаслівейшай асобай на свеце. І хаця вайна трывала далей, то я была спакойнай... я ведала, што калі бацька разам са мной, дык са мной нічога дрэннага не здарыцца.

Мы жылі далей — не да канца пэўныя сваёй будучыні. У галаве кожнага з нас была свая вайна — за сям'ю, за хату, за... жыццё. І тады ў Тушамлю прыехала нямецкае войска. Салдаты крычалі на нас, гаварылі, каб мы забіралі свае рэчы і адышлі. Мы забралі толькі тое, што для нас было найбольш патрэбнае. Жанчын і дзяцей пасадзілі на грузавік, а мужчыны выязджалі фурманкамі. Калі ўжо нікога ў вёсцы не было, немцы падпалілі хаты... спалілі ўсю Тушамлю. Паветра, якое пахла бярозамі, пачало несці пах болю, цярпення, страху і слёз...

Разам х сястрой, братам і бацькамі мы схаваліся ў сям'і ў Бандарах. Цяжка было жыць у цеснаце. Пачынала бракаваць яды і месца для спання. Дык нас гэта вельмі не хвалявала. Мы цешыліся, што мы ўсе разам, што ўсе мы жывыя. Усё да часу... аж нямецкая армія з'явілася і тут. Ноччу салдаты прыйшлі ў нашу хату і забралі ўсіх мужчын. Гэта была настрашнейшая ноч у маім жыцці... забралі майго бацьку... На другі дзень мы знайшлі ягонае цела за вёскай. Тым былі ўсе, каго забралі немцы. Бацьку мы пахавалі аж у Юшкавым Грудзе наступнай ноччу, каб толькі ніхто не заўважыў, што мы забралі цела.

Потым мы разам з сям'ёй уцяклі на Баб'ю Гару. Там пасяліліся ў лесе. У зямлянцы мы пражылі да канца вайны. Калі ўсё супакоілася, трэба было жыць далей. Ніхто ўжо не быў тым самым чалавекам. Мы перажылі вайну! З часам пабудавалі хату на Баб'яй Гары. Я пачала хадзіць у школу ў Семяноўцы. І так жыццё мінала год за годам...

Калі я сустрэла любоў свайго жыцця, тады я пераехала ў яго хату ў Лазовае. Я там пражыла сорак гадоў! Бывалі горшыя і лепшыя дні. На гаспадарцы раз вялося добра, а іншы раз дрэнна. Усё-такі я добра ўспамінаю гэты час. Наша хата стаяла глыбока ў лесе. Пасярэдзіне панадворка Валодзя — мой муж — пасадзіў дуб. Мы дачакаліся дзвюх дачок, трох унукаў і адной унучкі. А за нашым панадворкам раслі сосны, елкі і... бярозы...

Пасля смерці Валодзі я пачала жыць у дачкі ў Нараўцы. І жыву тут далей. Часта таксама начую ў другой дачкі, якая цяпер жыве ў Тарнопалі. Часта наведваю сем'і ў Бандарах і ў Баб'яй Гары. Часта таксама прыязджаю ў Лазовае, каб паглядзець на пустую хату, на аброслы травою панадворак і на вялікі дуб, якога галіны акружаюць цэлую сядзібу. Люблю пасядзець на каменьчыку, напіцца свежай чыстай вадзіцы з нашага калодзежа і ўспомніць усе пражытыя тут хвіліны. Заўсёды вяртаюцца таксама ўспаміны пра Тушамлю і ваенныя гады. Тады надыходзіць думка: ці магло быць інакш? Можа я далей жыла б у Тушамлі, на роднай зямлі і была б з усёй сям'ёю, якая там засталася — з цёцямі, дзядзькамі, дваюраднымі сёстрамі і братамі. І можа далей дыхала б гэтым беларускім паветрам... Паветрам, якое пахла бярозамі і якое я далей памятаю...».

І тады мая бабуля замаўкае. Набірае ў грудзі паветра, так глыбока, быццам бы зноў пачула гэты бярозавы пах.

**Наталля ВАСЬКО**
Гайнаўскі белліцэй

*Міра ЛУКША*

## *Явар*

*Яваравы пальцы*
*дакранаюць сэрца.*
*Паўтысячагоддзя*
*ён да неба рвецца.*
*Першы раз квітнее*
*пад трыццаціgoddзе.*
*Дрэвам закаханых*
*славіцца ў народзе.*
*Дае блаславенне,*
*як легенда бае,*
*лістом, кветкай, семем*
*— усім аздараўляе,*
*а калі прытуліш*
*явар да грудзіны,*
*то ён як матуля*
*падмацуе сілу.*
*Баяліся зрэзваць*
*явары славяне,*
*бо калі параніш —*
*рана ў цябе стане.*
*Арэшкі крылатыя,*
*яваравы дзеткі,*
*ляціце над хаты,*
*засейце палеткі,*
*каб явар з калінай*
*у нас не прапалі,*
*каб вечнай часінай*
*радзіме спявалі.*



# Малебен
## у дзень Еўфрасінні Полацкай

— Давайце, памолімся, каб Усявышні Айцец дапамог захаваць у сэрцы любоў да роднага, свайго, беларускага! — такімі словамі маліліся дзеткі, бацькі і настаўнікі ў Свята-Юр'еўскай царкве. У Беластоку ўжо такая традыцыя, што пачатак і канец школьнага года адзначаюць з малітвай на беларускай мове. Так было і ў гэты раз. Духоўнае развітанне са школай было наладжана ў Дзень св. Еўфрасінні Полацкай, першаасветніцы і заступніцы Беларускай зямлі.

Паколькі свята выпала ў сонечную нядзельку, бацькі, дзеткі, настаўнікі, ліцэісты, студэнты, а таксама прыхільнікі беларускага школьніцтва, прыехалі на галоўную літургію, якая закончылася хрэсным ходам. Беларускі малебен адслужыў сам настаяцель а. Рыгор Місіюк. Малітвы і багаслужбу суправаджаў цудоўны царкоўны хор пад кірункам матушкі Ганны Цыркун. Як штогод, малебен завяршыўся супольным выкананнем беларускага рэлігійнага гімна «Магутны Божа».

Малебен быў саслужаны 5 чэрвеня г.г. па заказе аб'яднання АБ-БА.

Дзякуючы такім багаслужбам, дзеці і бацькі маюць нагоду пачуць беларускую мову ў царкве.

Малітва прыносіць тут багаты плён! Дзеці з аб'яднання АБ-БА не толькі вывучаюць беларускую мову. Яны — першыя ў прадметных і мастацкіх конкурсах, удзельнічаюць у элітарных праектах, прадстаўляюць культуру беларусаў на гарадскіх і вясковых святах. І галоўнае — між сабой пачынаюць гаварыць па-беларуску.

Разам з навучэнцамі і бацькамі маліўся нестар нашых беларускіх літаратараў паэт Віктар Швед.

**Зорка, фота Ганны Кандраюцк**



# У Новым Корніне

Нядаўна заглянулі мы ў школу ў Новы Корнін. Вясновае надвор'е спакушала пагуляць сярод зелені і птушыных спеваў на прыродзе. Гэта ўсё знаходзіцца пад рукой, школьны будынак акружаны дрэвамі і зялёнымі палямі. Але ў класах панавала засяроджанасць. Не дзіва — гэтая вясковая школа мае высокія дасягненні ў навуцы. Тут таксама амаль усе ходзяць на беларускую мову. Ды не толькі «ходзяць»! Куба Казімярук стаў лаўрэатам прадметнага конкурсу па беларускай мове. Шасцікласнік праявіў сябе таксама як дэкламатар — ён лаўрэат конкурсу «Роднае слова». Куба, як адзначыла яго настаўніца Ніна Куптэль, збіраецца ў гайнаўскую белгімназію. У школе ганарацца таксама карэспандэнткай «Зоркі» Оляй Чабай. Са школы мы атрымалі яшчэ допісы і малюнкі ад Ружы


фота Ганны Кандрацюк

Марчук, Кубы Казімерука, Давіда Адамюка, Вікторыі Анішчук, Наталлі Ляўчук. Хоць наш візіт не быў сплананаваны, усе сябры мелі пад рукой падрыхтаваныя навейшыя «крыжаванкі».

А паколькі канікулы не за гарамі, мы рашылі зрабіць памятны здымак. Каб у верасні, калі зноў сустрэнемся на старонках «Зоркі», пабачыць як усе падраслі!

**Зорка**

## Вершы Віктара Шведа



### Ездзіць мама на кані

— На кані вараным
Ездзіць наша мама,
Каб скінуць на ім
Лішак кілаграмаў.

— Дык скажы ты нам, Лявонь,
Скінуць удалося?
— На жаль толькі скінуў конь
Маму разоў восем.

### Падзякуй дзедку

Дабрадушны дзедка ўнуку,
Шасцігадоваму Жэні,
Дваццаць злотых даў у рукі
У дзень яго нараджэння.

— Дык падзякуй жа, дзіцятка,
Матуля падказала,
— Скажы, як я твайму татку.
— А чаму ж так мала?

## УВАГА КОНКУРС! № 24-15

**Загадкі з роднай хаткі**

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 19 чэрвеня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Сохнуць скошаныя травы.**
**Едзе лета на вазах.**
**Непаспешлівá атава**
**Адрастае на лугах.**
**С......**
**(М. Бусько)**

Адказ на загадку № 20-16: цыбуля.
Узнагароду, Турыстычны даведнік па горадзе Беластоку (на беларускай мове), выйграла **Мартына Куклік** з Бабік. Віншуем!

*Габрыеля ТОРКА*
*Грабоўка, Гімназія імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку*

## *Раслінка-Гасцінка*

*У мяне ў агародзе жыве раслінка.*
*Яе завуць Гасцінка.*
*Яна вельмі любіць, калі ў яе госці.*
*Кожны дзень у Гасцінкі хтосьці.*
*У панядзелак прыляціць мошка,*
*З ёю пагаворыць трошкі.*
*А ў аўторак прыйдзе мурашка,*
*У той дзень на стале заўсёды кашка.*
*А ў сераду вожык у яе госць.*
*Вожык – вялікі ягамосць.*
*У чацвер у яе Рыгор-жук,*
*Жаба, блыха, павук.*
*У пятніцу гуска прыйдзе,*
*Калі ўжо прыйдзе – доўга не выйдзе.*
*А ў суботы і нядзелі*
*У Гасцінкі іншыя прыяцелі.*
*Прымае гасцей раслінка,*
*Дык таму яна і Гасцінка.*

## Польска-беларуская крыжаванка № 24-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 20:**
Скарб, тон, гара, аса, гай, лес, май, кола. Рог, нага, Ас, рай, край, ар, ало, Бусел, аса.

Узнагароды, жалевыя аўтаручкі, выйгралі **Наталля Кляйко** з Шудзялава, **Іаанна Нікіцюк**, **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага, **Бартэк Чэмярыс** з Нарвы, **Валерыя Люляк** з Міхалова, **Аня Парфянюк** з Новага Корніна. Віншуем!

Fikus, Film, Markiz, Bójka, Żółw, Igor, Morze, Igła, Mgnienie, Tata, Kat, Znaczek, Gaj, Marchew, Gust, Tur, Kawka, Nos, Ogórki, Bierz, Zdanie, Och!, Zdjęcie, Osa

№ 24 [12-06-2016]

# Пралог. Дні славянскай пісьменнасці





■ Прафесар Антон Мірановіч выступіў з дакладам пра кнігу «Пралог», якая паўстала па заказе Солтана Салтановіча ў 1496 годзе ў Бельску

■ Удзельнікі канферэнцыі ў бельскай бібліятэцы

«Пралог. Дні славянскай пісьменнасці» — мерапрыемства, арганізаванае з 22 па 24 мая ў Бельску-Падляшскім, адбывалася падчас праваслаўных святкаванняў у гонар св. Мікалая (22 мая) і настаўнікаў славян свсв. Кірылы і Мяфодзія (24 мая). Падчас мерапрыемства ў мяшчанскім доме Музея малой айчыны ў Студзіводах адкрылася Бібліятэка імя айца Рыгора Сасны, асветніка праваслаўя і беларускага гісторыка, які разам з матушкай Антанінай Троц-Сасной выдаў многа кніг, заснаваў і вёў Музей бытавой культуры «Бацькаўшчына» ў Рыбалах. Вучнем айца Рыгора, з якім супольна выдаў кнігі, быў Дарафей Фіёнік. Ад айца Рыгора Сасны пераняў ён любоў да мясцовай гісторыі і прагу яе дакументавання ў шматлікіх выданнях. Аб айцу Рыгоры гаварылі дакладчыкі на канферэнцыі, прымеркаванай да 520-годдзя выхаду кнігі «Пралог», самай старой захаванай славянскай кнігі з Бельска, якая паўстала ў 1496 годзе.

22 мая ўдзельнікі Дзён славянскай пісьменнасці маліліся ў Міхайлаўскай царкве ў Бельску-Падляшскім, падчас святкавання ў гонар св. Мікалая. Пасля абеду каля бельскай ратушы адбыліся кірмаш кніжак, прэзентацыя беларускіх, праваслаўных выданняў, паказ даўняга друкарскага майстэрства. З канцэртам выступілі музычныя калектывы. 23 мая ў Гарадской публічнай бібліятэцы ў Бельску-Падляшскім адбылася канферэнцыя, прымеркаваная да 520-годдзя выхаду кнігі «Пралог», самай старой захаванай славянскай кнігі з Бельска.

— У XIII стагоддзі ў Бельску знаходзіліся ўжо кнігі. У Мікалаеўскім манастыры ў Бельску ў XV стагоддзі нават пісаліся кнігі. «Пралог» з жыціямі святых паўстаў па заказе Солтана Салтановіча ў 1496 годзе ў Бельску. Доўга ён знаходзіўся ў Супрасльскім манастыры, а пасля трапіў у Віленскую публічную бібліятэку. Падчас Першай сусветнай вайны быў вывезены ў Маскву і цяпер знаходзіцца ў Маскоўскім гістарычным музеі. У Бельску і іншых мясцовасцях нашага ваяводства былі вялікія традыцыі славянскай пісьменнасці. Падчас II Дзён славянскай пісьменнасці мы раскажаем аб гэтых традыцыях. У Бельску, Заблудаве і Супраслі таксама працавалі друкарні. Друкарскія традыцыі былі адноўлены і зараз прадаўжаюцца, — сказаў Дарафей Фіёнік, старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах», якое разам з Пакроўскім праваслаўным прыходам у Бельску-Падляшскім было галоўным арганізатарам Дзён славянскай пісьменнасці. Звярнуў ён увагу на выдавецкую актыўнасць беларусаў і на актыўнасць праваслаўных выдавецтваў, якія папярэдняга дня каля бельскай ратушы прэзентавалі свае выданні. Паказваліся там, між іншым, выданні Праграмнай рады тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва». Каля ратушы і ў Гарадской публічнай бібліятэцы прэзентавалася выстава артыкулаў і здымкаў, апублікаваных у тыднёвіку «Ніва» пра дзейнасць Музея малой айчыны ў Студзіводах, які сёлета адзначае 30-годдзе сваёй працы.

Падчас канферэнцыі ў бельскай бібліятэцы выступілі дакладчыкі з Польшчы, Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі. Сярод гасцей канферэнцыі былі святары, бельскі віцэ-староста Пётр Божка, бургамістр Яраслаў Бароўскі і старшыня Рады горада Бельск Ігар Лукашук. Першым падчас канферэнцыі выступіў гісторык Універсітэта ў Беластоку праф. Антон Мірановіч з дакладам пра кнігу «Пралог».

— Кніга «Пралог» выкарыстоўвалася падчас багаслужбаў. З'яўляецца яна таксама крыніцай гістарычных ведаў. Жыціі святых, змешчаныя ў кнізе «Пралог», перапісваліся з улікам балгарскага і наваградскага спісаў святых. Пасля да «Пралога» дапісанае было жыцце св. Антонія Супрасльскага, ураджэнца Бельска, які падвізаўся ў Супрасльскім, а пазней у Хіландарскім манастыры на Афонскім паўвостраве. Св. Антоній Супрасльскі забіў чалавека і рашыўся адкупіць грэх



■ Адкрыццё Бібліятэкі імя айца Рыгора Сасны пры Музеі малой айчыны ў Студзіводах (ручнік здымаюць з дошкі Дарафей Фіёнік, матушка Антаніна Троц-Сасна і ўнучка айца Рыгора)

манаскім жыццём, а пасля рашыўся ададаць жыццё за Хрыстовую веру, што яму ўдалося, бо загінуў прапаведуючы хрысціянскае веравызнанне і не хацеў адрачыся ад яго. Жыцце святога Антонія спісаў іншы бяльшчанін, манах Арсеній, які з Бельска трапіў спачатку ў Супрасльскі манастыр, а пасля ў Хіландарскі манастыр на Афоне. Перадаў ён вопіс жыція святога Антонія ў Супрасльскі манастыр, — распавядаў праф. Антон Мірановіч.

Гражына Харытанюк з Універсітэта ў Беластоку распавяла пра айца Рыгора Сасну як бібліёграфа. Анна Фіёнік са Студзіводскага музея падрыхтавала даклад пра кнігазбор айца Рыгора. Змяшчае ён многа кніжак аб гісторыі прыходаў і аб мясцовай гісторыі ў цэлым, што з'яўляецца адной з галоўных тэм даследаванняў Музея малой айчыны ў Студзіводах.

— Айцец Рыгор Сасна выканаў велізарную работу, выдаючы шмат кніг. Многа цярплівасці, часу і энергіі патраціў ён, рыхтуючы бібліяграфію Праваслаўнай царквы, — сказала Гражына Харытанюк.

Лідзія Кулажанка з Мінска расказвала пра царкоўна-парафіяльны летапіс з Бялячына каля Нясвіжа як крыніцу гістарычных ведаў. Ігар Вуглік з Мінска распавядаў пра мемуарную літаратуру Беларусі XVII-XVIII стагоддзяў. Марцін Абійскі, дырыжор Камернага хору імя Багдана Анісімовіча, знаток візантыйскага і старарускага спеваў, параўноўваў фальклор Падляшша і Палесся з фальклорам грэцка-візантыйскай культуры. Запрэзентаваў ён выказванні нашых старэйшых вясковых жанчын, якія, пачуўшы грэцкія фальклорныя песні, заявілі: «Гэтыя жанчыны спяваюць па-нашаму».

— На падставе параўнання фальклорных песень з Падляшша і Палесся з фальклорам з Грэцыі можна сказаць, што тут аднолькавы код музычнай мовы. У гэтай дзялянцы патрэбныя больш падрабязныя даследаванні, чым хачу заняцца ў будучыні. Праваслаўе прыходзіла на нашы землі спачатку з поўдня, разам з місіяй святых Кірылы і Мяфодзія і іх паслядоўнікаў. Разам з распаўсюджаннем рэлігіі, маглі таксама распаўсюджвацца на нашых землях фальклорныя песні. У далёкім мінулым у цэрквах спявалі такімі напевамі, як спявалася ў народзе, — гаварыў Марцін Абійскі.

Падчас перапынку ў канферэнцыі ў Музеі малой айчыны ў Студзіводах адбылося адкрыццё бібліятэкі, якая носіць назву «Бібліятэкі імя айца Рыгора Сасны пры Музеі малой айчыны ў Студзіводах». Бібліятэку асвяціў настаяцель Пакроўскага прыхода мітрафорны протаіерэй Ян Шмыдкі ў саслужэнні святароў. Сабраныя маліліся за ўпакаенне душы айца Рыгора. У адкрыцці бібліятэкі прыняла ўдзел матушка Антаніна Троц-Сасна, якая прыбыла на ўрачыстасць з сямейнікамі.

— Я рада, што памяць аб айцу Рыгоры будзе захоўвацца ў музейнай бібліятэцы. Дарафей Фіёнік супрацоўнічаў з айцом Рыгорам і разам з ім выдаваў кніжкі. Айцец Рыгор частку кніжак з нашай бібліятэкі перадаў Студзіводскаму музею. Пасля смерці айца Рыгора я перадала ў музей яго мітру, крыж, расу, некаторыя іншыя асабістыя рэчы. Засталося яшчэ многа матэрыялаў і дакументаў аб праваслаўных прыходах, якія сабраныя ў папках. Матэрыялы аб некаторых прыходах займаюць нават па 5 і больш папак. Хаця гэта многа працы, я рашылася працягваць работу айца Рыгора, выканаць копіі сабраных матэрыялаў і зрабіць іх даступнымі ў электроннай форме, каб маглі імі карыстацца ўсе ахвотныя, — сказала матушка Антаніна Троц-Сасна. — Айцец Рыгор не паспеў выдаць кніжкі, над якой многа працаваў. Я хачу закончыць яго работу і выдаць кніжку, у якой будуць змешчаны здымкі і даведкі аб 1200 праваслаўных архірэях і святарах, якія служылі на тэрыторыі Рэчы Паспалітай з 1839 года ажно да нашых часоў.

— Я ведала, што мой бацька вельмі многа працаваў і шмат выдаваў. Калі цяпер я ўбачыла мноства папак і дакументаў, якія сабраў бацька, яшчэ лепш зразумела, як многа сіл, часу і сэрца ўклаў айцец Рыгор, каб наблізіць нашаму грамадству праваслаўе, нашу гісторыю і традыцыі, — сказала Ала Сасна-Паўлючук, дачка айца Рыгора.

— Айцец Рыгор многа працаваў у карысць праваслаўя і выдаў шмат кніг, якія сведчаць што праваслаўе на нашых землях было здаўна. Бібліятэка будзе сведчыць аб рэзультатах велізарнай працы айца Рыгора, які застанецца ў нашай малітоўнай памяці. Сённяшняя канферэнцыя таксама сведчыць, што звыш пяцьсот гадоў назад пісьменнасць у Бельску абапіралася на царкоўна-славянскую мову, — сказаў настаяцель Пакроўскага прыхода мітрафорны протаіерэй Ян Шмыдкі.

— Айцец Рыгор раздзяліў сваю бібліятэку і перадаў кнігазбор у 10 месцаў. У наш музей перадаў цікавыя кнігі, сярод якіх ёсць беларускія кніжкі і кніжкі з ухілам на мясцовую гісторыю, культуру, традыцыі і фальклор. Мы гэты кнігазбор папоўнілі кніжкамі прафесара Васіля Белаказовіча і кнігамі з бібліятэкі Яраслава Касцыцэвіча. Зараз адкрываем Бібліятэку імя айца Рыгора ў музеі ў Студзіводах, якой кнігазбор будзем павялічваць, — заявіў Дарафей Фіёнік.

Прыгожасць царкоўнай музыкі, выкананай візантыйскімі мелодыямі, удзельнікі канферэнцыі ўчулі падчас усяночнай багаслужбы (23 мая) і літургіі (24 мая) у Пакроўскай царкве ў Бельску, калі падчас святкавання ў гонар настаўнікаў славян свсв. Кірылы і Мяфодзія малітвы ўзначальваў праваслаўны ардынарый Войска Польскага епіскап сямятыцкі Георгій. Царкоўную музыку візантыйскімі мелодыямі выконваў дырыжор Камернага хору імя Багдана Анісімовіча Марцін Абійскі, спецыяліст па візантыйскіх мелодыях.

— Наша Пакроўская царква як бы створана для такога даўняга царкоўнага спеву, з візантыйскімі мелодыямі, — радуецца Дарафей Фіёнік, прыхаджанін гэтай царквы.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА



# Карцінкі з пушчанскай глыбінкі

Старое Ляўкова, як некалі „востраў свабоды” Куба, здаецца цярпець нейкую камунікацыйную блакаду, або як Іран ці Паўночная Карэя нейкія камунікацыйныя санкцыі. Зараз праз вёску курсіруе толькі адзін аўтобус публічнай камунікацыі, які раніцай вывозіць людзей у шырокі свет, значыць у Гайнаўку. Як калісь на прымусовыя работы ў Германію. А вяртацца тым вывезеным то ўжо няма чым. Можа гэта элемент такой малой глабалізацыі, мэтай якой канцэнтрацыя людзей і ўсялякіх іхніх цывілізацыйных здабыткаў у нейкім цэнтральным месцы. Каб у Старое Ляўкова даехаць, напрыклад, з Беластока, то трэба прыехаць у Бандары або на нейкі прыпынак паміж Нарвай і Навасадамі, а адтуль дабірацца тым сродкам перамяшчэння, якім біблейскі Адам падаваўся ад адной яблыні да другой.

У гэты раз стартавым пунктам абраў я прыпынак Кутавая, які на дзяржаўнай мове сродкаў пасажырскай камунікацыі называецца Кутова; амаль як Ляўкова. А адтуль у Крывец. У Крыўцы прыаздобленая запрэжнымі рэквізітамі крама, на якой вывешка, што прадавец зараз вяртаецца... Валакуся далей па крывецкай вуліцы з сумкай перавешанай цераз адно плячо. Па вуліцы праязджаюць побач мяне два матаролерысты; праехаўшы можа сто метраў заварочваюцца і раўняюцца са мною, цікавячыся ці я часам не спісваю паказанняў электралічыльнікаў...

Надвор’е сонечнае, значыць не вельмі спрыяльнае для пешай вандроўкі па жвіроўках ці асфальтоўках. Бо здараюцца такія месцы ў асфальтавым палатне, дзе абутак прыліпае да мадэрнай дарогі; па асфальце, як па дрыгве, трэба хадзіць асцярожна. А жвіроўкай то можна яшчэ хадзіць смела, абы толькі смела не ганяліся па ёй машыны, бо могуць яны прыкрыць чалавека жвіровай пудрай так, каб выглядаў той аматар дабрацца ў Старое Ляўкова як персанаж фільмаў з Чарлі Чаплінам.

Жвіровачку з Крыўца ў Крыніцу ўдаецца мне пераадолець цалкам сольна, не набіраючы ніякай пудры. У Крыніцы астравок асфальту, пра які можна прыблізна сказаць, што прамавугольнага кшталту, бо засцелена ім толькі сама вуліца; не надта доўгая, бо і вёска ж такая... Вуліца пустая, а хаты ў прынцыпе ўжо прайшлі візажную трансфармацыю на сучасны лад.

Дарогу з Крыўца ў напрамку Капітаншчыны таксама можна назваць жвіроўкай, хаця той жвір збратаўся ўжо з прыродным насцілам так як сучасныя беларусы з расейцамі. Аднак не буду я ўмешвацца ва ўнутраныя справы мірных нашых супляменнікаў, бо ўмешванне ва ўнутраныя справы свабодалюбівых народаў не заўсёды добра бачыцца тых народаў герольдамі. Таму ўмяшаюся ва ўнутраныя справы Пушчы, у гэты раз Лядскай, бо дарога з Крыніцы ў Капітаншчыну якраз і пралягае цераз гэтай пушчы сярэдзіну.

Дарога гэтая сціпленькая, не размашыстая, не надта прыцягальная для сучасных машын, не прадбачаны там вялікі рух. Інакш можна сказаць, што гэта выдатная дарожка для менавіта пешай прагулкі ў напрамку Старога Ляўкова. Сапраўды, тут, па гэтай дарозе адчуваецца дыханне лесу, дыханне прыроды без антрапагенных прымешак. Відаць тут расліннасць ва ўсіх бадай стадыях яе дынамічнага флярыстычнага жыцця. Жыцця, здавалася б, шчаслівага, нікім не турбаванага. Не тое, што на вонкавых дарогах, гарадскіх і міжгарадскіх, заліваных бетонам і асфальтам ці засыпаных жвірам...

Гэта спачатку, з боку Крыніцы. Але з прыбліжэннем да Капітаншчыны адухаўленне гэтым лесам ідзе на рэзкі спад. Паказваюцца высокія елкі, пазбаўленыя іголак і шмат дзе кары. Хворыя дрэвы, заатакаваныя караедамі. Яны, дрэвы, гнёздамі, быццам лішаямі, па дваццаць-трыццаць елак. Від гэтых гнёздаў даволі пануры, быццам былі гэта фрагменты нейкай экалагічнай катастрофы. Магчыма, што так яно ёсць, а магчыма, што наадварот. Наш жа сусвет рэлятыўны і розныя з’явы бачацца па-рознаму з розных пунктаў гледжання.

Гэтак жа можна глядзець і на трагедыю елачнай грамады Пушчы. Можна тую масавую гібель елак разглядаць як збядненне



ляснога багацця на адзін від дрэў, як збядненне пушчанскага краявіду. Але можна гэты працэс бачыць інакш: можна елкі палічыць лясным пустазеллем, шкодным правільнаму выгляду лесу. Таму атаку караедаў, з гэтага пункту гледжання, можна разглядаць як санітарнае ўмяшальніцтва, як высячэнне з ляснога арганізма шкоднай тканкі,лясной пухліны. Як чыстку. А чыстку можна сумна асацыяваць шырэй...

На гэты масіраваны налёт можна глянуць і з іншага пункту гледжання. Караеды ж кінуліся на Пушчу як легендарная, караючая за фараонавы грахі саранча: „Подул сильный ветер, а за ветром налетели на Египет полчища саранчи, сожрав всю зелень вплоть до последней травинки на земле египетской” (Выхад, 10:13). Хто ведае, якімі грахамі награшыла пушчанская зямля. А можа не толькі пушчанская? Ці прысутнасць у прыродзе ўсялякіх забруджанняў — не толькі духовых, як у біблейскім Егіпце — не стварыла ўмоў караедам карысных, а некарысных елкам ды трохпальцым дзятлам, якія — як ваўкі лішнюю звярыну — абмяжоўваюць колькасць гэтых елкалюбных жучкоў?

На апошняе пытанне Вікіпедыя дапамагае адказаць гэтак жа адназначна, як міфічны дэльфійскі аракул. „W naturalnych kompleksach leśnych kornik drukarz jest uznawany za *„gatunek kluczowy”*, regulujący działanie ekosystemów i dający możliwość występowania licznej grupy innych gatunków. Jego spontaniczne, limitowane przez warunki środowiska gradacje usuwają z drzewostanów osłabione okazy świerka i są jednym z czynników umożliwiających powstawanie luk w drzewostanach, co jest warunkiem występowania w lasach gatunków światłolubnych i termofilnych. Na przykład w Puszczy Białowieskiej w drewnie martwych świerków i w korytarzach larwalnych kornika drukarza rozwija się około 100 gatunków chrząszczy uznawanych za ginące lub rzadkie. Wiele z nich podlega w Polsce ochronie prawnej. Populacje omawianego chrząszcza (значыць караеда) stanowią też bazę pokarmową niektórych gatunków ptaków a jego obfite występowanie jest szczególnie ważne dla dzięcioła trójpalczastego”. Але далей: „Jest to jeden z najgroźniejszych szkodników lasów gospodarczych (караед). Przy masowym występowaniu kolejno nadlatujące grupy osobników zasiedlają drzewa nie wykazujące oznak osłabienia. Ma to miejsce przy braku higieny lasu, utajonym osłabieniu drzew, których reakcje obronne są zahamowane i w odpowiednich warunkach termicznych (powyżej 20°C w czasie rójki wiosennej)”.

Была згадка пра тэрмафілію, як жа спрыяльную караедам. Клімат наш цяплее, а значыць караеды могуць чуцца *jak u Pana Boga za piecem*. Прычыны пацяплення клімату таксама бачацца з розных пунктаў гледжання. Адны кліматолагі бачаць гэтае пацяпленне як этап чарговага стратыграфічнага перыяду Зямлі і не прыдаюць гэтай з’яве небяспечнай афарбоўкі. Іншыя аўтарытэты сцвярджаюць, што пацяпленне клімату з’яўляецца „заслугай” чалавечай дзейнасці — празмерным спальваннем носьбітаў энергіі. Ды елка сама па сабе здаецца не надта любіць цяпло — гэта ж дрэва больш халоднай кліматычнай паласы. І ў сучасных тэрмічных умовах усе ***okazy świerka*** — штораз больш аслабленыя...

Як жа паставіцца да гэтай з’явы: ці неяк ратаваць слабеючыя елкі, ці даць волю прыродзе, калі яна ідзе ў напрамку тэрмафільнага аблясення Пушчы? Тады можа ў цалкам недалёкай перспектыве Пушчу здаміную цеплалюбныя пальмы?.. І стомленым нашым тутэйшым не трэба будзе ездзіць у небяспечныя егіпецкія курорты... Небяспечныя ад мадэрнай саранчы...

Дарога ад Крыніцы ў Капітаншчыну пралягае цераз прыродны запаведнік Даліна Вялічкаўкі. Даведнік аўтарства Пярта Байко: „Ze zwierząt możemy tu natrafić na żubra, wilka, rysia, bobry, łasicę, gronostaja, smużkę, wiewiórkę, zająca bielaka, ryjówki. Poza tym jest to obszar, na którym można obserwować wiele ciekawych gatunków ptaków”. Магчыма, што можна іх пабачыць, але галоўным чынам абавязкова пачуць канцэрт ляснай птушынай душы. А вось пра дзікоў згадкі няма, а яны ж вельмі дабіваюцца таго, каб і пра іх не забываць. Тут жа крыніцы і балотнае рэчышча невялікай Вялічкаўкі, а ў балоце не толькі чэрці водзяцца, але і калюжацца дзікі. А навакольныя сенажаці яны так зрылі, што ў некаторых месцах немагчыма ўехаць з сельскагаспадарчай тэхнікай і сенажаці становяцца аблагамі. І з касою цяперашняму пажылому насельніцтву нашых вёсак не пад сілу на сенажацях змагацца. А за аблагі няма еўрасаюзных даплат — страта. І на дзікоў нельга браканьерыць — таксама страта...

Раніцай адпраўляюся са Старога Ляўкова ў напрамку Гайнаўкі, а дакладней — у Навасады. Невялікі аўтобус амаль поўны, займаю месца ў апошнім радзе. Гэта вельмі добрае месца, пасажыр адчувае сябе там так, як у парку з атракцыёнамі. Дзякуючы нашым асфальтоўкам, пастаянна інкруставаным штогадовым латаннем.

У Нараўцы пасажыры набіваюць аўтобус бітком, амаль дакладна так, як у 1970-я ці 1980-я гады шматлюднае тады яшчэ насельніцтва набівала аўтобусы, якія ездзілі з напрамку цяперашняй Усходняй сцяны. Гэты від транспарту — бітком набіты аўтобус — амаль ужо звёўся ў нас. Час ад часу, аднак, здараюцца яшчэ такія эндэмічныя выпадкі.

У Навасадах злазіць з таго аўтобуса яшчэ двое пасажыраў, якія выбраліся ў напрамку Беластока. Завязваецца гаворка і спачатку карыстаюцца яны дзяржаўным сродкам выказвання думак. А паколькі ў мяне няма ахвоты лічыць іх нейкай навалаччу, неўзабаве і яны, як той біблейскі Валаамаў „конь”, пачынаюць прамаўляць на мове...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# У арлянскім Гмінным асяродку культуры

**Пра культурныя падзеі расказвае дырэктар ГАК Анна НЕСЦЯРУК.**

«Майскія сустрэчы» гэта ўжо трэцяе па чарзе наша мерапрыемства, якое ладзім разам з Цэнтрам адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах. Гэтае мерапрыемства задумаў Ігар Лукашук і добра яно ў нас атрымалася. Сёлета, у нядзелю 22 мая, сабралася шматлікая публіка. Прыехалі калектывы «Баламуткі» з Беластока, «Лянок» і «Жэўжыкі» з Бельска-Падляшскага, «Верасы» з Чыжоўскай гміны ды «Арляне», «Малінкі», «Вэрвачкі» і моладзевая група «Фэрмата» з Орлі.

Мяркую, што найважнейшай вартасцю сустрэч з'яўляецца магчымасць арганізавання на месцы рукадзельных і мастацкіх майстар-класаў для дзяцей. Адбываецца таксама кулінарны конкурс на рэгіянальную страву. Нашы гаспадыні нарыхтавалі мяса ў шкляным слоіку, бутэрброды са свойскім хлебам, соленыя агуркі ды шмальчык. А «Васілёчкі» мелі буслявы лапы і салодкія рулецікі, спадарыня Вера спякла каравай. Стравы ацэньвала камісія, у якой складзе заўсёды запрошаны госць; сёлета быў ім дырэктар школы з Пуньска. Пасля людзі могуць паспрабаваць тыя прадукты. Былі ўзнагароды — прыборы, неабходныя ў кухні кожнай гаспадыні.

Былі таксама прамацыйныя стэнды, якія ўзбагачалі мерапрыемства. Імпрэза пачалася а 14-й гадзіне, а кончылася каля 19-й. Мерапрыемства запісалі мы ў гадавы план працы нашага асяродка. Найбольш актыўнымі нашымі творцамі з'яўляюцца Вольга Несцярук, якая сёлета запрэзентавала вышываныя абрусы, ручнікі і макаткі ды Крысцінія Грыгарук, якая выконвае вырабы з паперы ды ракіты. На мерапрыемстве можна было пабачыць розныя каляровыя шэдэўры і хто хацеў, мог іх купіць. Паспрыяла таксама надвор'е, якое ў палове вырашае пра поспех пленэрнай падзеі.

У дзейнасці арлянскага ГАК мала прабелаў, выхадных дзён. Вось 24 мая ў Гміннай бібліятэцы адбыўся міні-канцэрт прысвечаны Дню маці. Прыехалі да нас дзеці з бельскай музычнай школы. Кожная прысутная мама атрымала гваздзіку.

5 чэрвеня адбываецца ў нас цыклічнае мерапрыемства з нагоды Дня дзіцяці, якое наведваюць і бацькі. Сёлета ўзбагацім яго футбольным турнірам маладых арлянят за кубак ветраэнергетычнай фірмы.


Фота Гмінны асяродак культуры ў Орлі

12 чэрвеня адбудзецца ў Кашалях фэст з цыкла «І тут жывуць людзі», ладжаны разам з белмузеем у Гайгаўцы. Чаму ў Кашалях? Бо дагэтуль там ніколі не ладзілася народнае свята, а кашалёўцы прыходзілі на фэсты, ладжаныя ў суседняй Орлі. У мінулым годзе такі фэст адбыўся ў Вульцы-Выганоўскай.

У першай палове ліпеня арганізуем «Канікулы ў арлянскім ГАК». Будзе многа дзяцей, бо ўжо запісалася каля паўсоткі. Будзе па чатыры гадзіны заняткаў у дзень. Харчаванне сваімі сіламі.

Чакае нас зусім новае мерапрыемства «На мяжы», ладжанае супольна Арлянскай і Чыжоўскай гмінамі на спортпляцоўцы ў Моры. Будзе прэзентаваны свой фальклор, каб людзі файна правялі той вечар.

Ці чула я пра колішнія непаладкі паміж жыхарамі Крывятыч і Мора? Чула, але пара жыць у згодзе. Гэта ўзялося з бежанства. Жыхары Крывятыч у бежанства падаліся, а жыхары Мора асталіся. Калі крывятыцкія бежанцы вярталіся на роднае — як расказваў каваль Фёдар Суліма — то чакалі іх пустыя хаты і многа разбуранага. Людзі жабравалі ў маран і некаторыя бачылі ў іх свае рэчы. З таго часу пайшлі звады. Пазней, з часам, калі людзі сталі разжывацца, тое стаўленне змянілася. Але калі ладзіліся забавы, то не заўсёды канчаліся яны мірна. Але цяпер трэба тое памяняць, фэст мае гэтаму паспрыяць, бо супрацоўніцтва гмін ідзе паспяхова, мы ўзаемна заўсёды маглі на сябе разлічваць. Думаю, што імпрэза будзе мець працяг у будучыні.

6 жніўня завітае да нас тэатральны фестываль «Вэртэп». 28 жніўня ладзім беларускі фэст «Арлянскія сустрэчы», а ў кастрычніку чакае нас юбілей 70-годдзя калектыву «Арляне»; з яго нагоды плануем выпусціць кампакт-дыск з памятным альбомам.

Культура павінна таксама выходзіць да людзей, якія не ў змозе прыехаць. Плануем паездзіць па святліцах. Маем моладзевую групу «Корнікі», якая прадстаўляе даўнія абрады; група з удзелам Веры Нічыпарук з Малінніка заняла другое месца на аглядзе тэатральных калектываў у Ломжы. Прадстаўлялі яны там вывад з хаты маладухі да шлюбу. 18 чэрвеня паедзем у Сточак-Лукоўскі на прэстыжны фестываль — Сеймік вясковых тэатральных калектываў.

**Запісаў Міхал МІНЦЭВІЧ**




## http://krochymrazam.jimdo.com

Апошнім часам у Беларусі праяўляецца некаторая мода на беларушчыну. У асноўным гэта тычыцца грамадства, якое пасля падзей на Украіне пачало насіць кашулі з вышытым нацыянальным арнаментам альбо праяўляць цягу да роднай мовы, запісваючыся на курсы, кшталту „Мовы нанова". Улады, якія два дзясяткі гадоў не давалі ходу беларускай мове ў паўсядзённы ўжытак, раптам пачалі не зусім зразумелыя крокі ў супрацьлеглы бок, напрыклад, павывешваюць білборды з перакладамі садавіны ці гародніны з рускай на беларускую і сцвярджэнні з пытаннямі, як то „Мама = мова. Любіш маму?".

Зважаючы на такія акалічнасці можна сцвярджаць, што ў беларускім грамадстве ёсць запатрабаванасць у беларускай мове. Таксама ёсць і жаданне, каб сённяшні модны трэнд пераўтварыўся ў сталыя намаганні па яе развіцці і пашырэнні выкарыстання ў штодзённым жыцці. Для гэтага, зразумела, важна, каб па-беларуску ўмелі размаўляць і размаўлялі дзеці, каб для іх беларуская мова не была нейкай замежнай.

Пару гадоў таму з'явілася інфармацыя, што ў Мінску ўзнік бацькоўскі клуб „Крочым разам". Яго стварылі людзі, якія зацікаўлены ў гадаванні сваіх дзяцей на беларускай мове. Каб бліжэй пазнаёміцца з даным клубам, варта наведаць яго сайт у інтэрнэце, што месціцца па адрасе **http://krochymrazam.jimdo.com**.

„Мы — не цэнтр ранняга развіцця, мы — не дзіцячы садок і, нават, не мамчын форум. Мы — бацькі, якія нешта ствараюць для сваіх дзяцей уласнымі намаганнямі. Мы ставім задачу стварыць агульную базу беларускамоўных выхаваўчых і адукацыйных матэрыялаў. Мы прапануем маладым бацькам развіваць свае таленты і здольнасці сваіх дзяцей. Мы імкнемся скараціць час на пошукі патрэбнай і вартай інфармацыі, якая цікавіць бацькоў і дзяцей", — распавядаюць на галоўнай старонцы крочачыя разам бацькі, падкрэсліваючы, што іх клуб — гэта пляцоўка, дзе кожны можа падзяліцца сваімі бацькоўскімі талентамі, знайсці паплечнікаў і рэалізаваць свае задумы.

Паколькі сайт клуба створаны бясплатна на платформе Jimdo, то, натуральна, ён даволі просценькі і не змяшчае мноства аздабленняў, якія звычайна прысутнічаюць на сучасных інтэрнэт-старонках. Разам з тым, атрымаць асноўную інфармацыю пра клуб можна, хоць яна абнаўляецца не надта рэгулярна.

Усе выйсці на рубрыкі сайта месцяцца ўверсе цэлага выяўлення. Іх не надта многа — „Тэматычныя тыдні", „Дзеткам ад 0 да 2 гадоў", „Бацькоўская старонка", „Сустрэчы клуба", „Кантакты" і „Сувязь". Праўда, нідзе ў тых рубрыках мы не знойдзем звестак пра тых, хто гэты клуб стварыў.

Згодна з інфармацыяй, пададзенай на сайце, ствараецца ўражанне, што не надта паспяхова пайшлі справы ў клубе. Так, там прадстаўлены фотарэпартажы толькі з дзвюх сустрэч клуба, якія адбыліся яшчэ напрыканцы 2014 года. Што было потым цягам апошніх паўтара года — невядома. Ёсць толькі адзінае сведчанне ў інтэрнэце, што клуб яшчэ жывы. Праўда, для гэтага трэба зазірнуць на сайт фотастудыі FORWARD Studio (**http://forwardfoto.by**), на базе якой праходзяць яго сустрэчы.

Цяперашні стан сайта „Крочым разам" з'яўляецца сведчаннем таго, як можа згасаць ініцыятыва па прышчапленні беларушчыны малым дзецям. І гэта натуральна, бо сістэма адукацыі не можа існаваць выключна на аматарскіх памкненнях нават самых апантаных той ці іншай ідэяй людзей.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара

### Адзін з бацькоў беларускай дзяржаўнасці



## 135 гадоў з дня нараджэння Івана Луцкевіча

Беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, публіцыст, археолаг, пачынальнік беларускага нацыянальнага руху Іван Луцкевіч нарадзіўся 9 чэрвеня 1881 г. у Шаўлях (цяпер горад Шаўляй у Літве). Паходзіў са шляхетнага роду гербу „Навіна" з сям'і ўдзельніка паўстання 1863 года. Разам са сваім братам Антонам стаяў ля вытокаў нацыянальнага беларускага станаўлення, якое пазней было названа „нашаніўскім перыядам".

Іван Луцкевіч пачаў вучобу ў 1890 г. у Лібаўскай гімназіі (цяпер горад Ліепая, Латвія). У 1897-1902 гг. навучаўся ў Менскай гімназіі, разам з братам заснаваў там вольналюбівы гурток. У 1905 г. скончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, паралельна ў 1902 г. — маскоўскі археалагічны інстытут. У 1903 г. стаў адным з заснавальнікаў Беларускай рэвалюцыйнай грамады (пазнейшая назва — Беларуская сацыялістычная грамада). За палітычную дзейнасць у 1903 г. трапіў у астрог. У 1904-1905 гг. працягваў вучобу ў Венскім універсітэце. Актыўна ўдзельнічаў у рэвалюцыйных падзеях 1905 года ў Менску. Пад пагрозай арышту выехаў у пачатку 1906 г. у Вільню, дзе да 1908 г. быў на нелегальным становішчы.

Паводле ініцыятывы Івана Луцкевіча ў Вільні выдаваліся беларускія газеты „Наша доля" і „Наша Ніва", створаны былі кнігавыдавецкія суполкі „Наша хата" (1908) і Беларускае выдавецкае таварыства (1913), а ў 1916-1918 гг. выходзіла газета „Гоман". У 1916-1920 гг. з яго ініцыятывы ў Вільні адкрываецца Беларускі клуб, вакол якога гуртуецца аматарская драматычная дружына пад кіраўніцтвам Францішка Аляхновіча. У 1919 г. паводле ініцыятывы Івана Луцкевіча ў Вільні адбылося адкрыццё першай беларускай гімназіі, дзе ён выкладаў краязнаўства і беларусазнаўства.

Іван Луцкевіч выступаў за аднаўленне ў Беларусі царкоўнай уніі дзеля яднання рэлігійнага і грамадска-палітычнага руху ў адзіным нацыянальна-адраджэнскім працэсе. Ён аўтар навукова-публіцыстычных прац па гісторыі, мастацтве, кніжнай культуры Беларусі. Аўтар аповесці „Дым і попел" — апісання знойдзенай ім рукапіснай кнігі беларускіх татараў „Аль-Кітаб" — помніка старабеларускай літаратуры XVI ст., які напісаны арабскай графікай. Акрамя свайго прозвішча пісаў таксама пад псеўданімамі Ян Міхальчык, Нашанівец, Шчасны, Palissander Нев.

Іван Луцкевіч — змагар за незалежную Беларусь. Быў адным з першых, хто зразумеў неабходнасць дзяржаўнай незалежнасці Бацькаўшчыны і разам з братам Антонам стаў ініцыятарам абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

У калекцыях Івана Луцкевіча былі рэдкія экспанаты, якія пазней сталі асновай створанага ў 1921 г. першага Беларускага нацыянальнага музея ў Вільні. Максім Багдановіч захоплена пісаў пра гэтыя зборы: „Гэта ёсць фундамент нашага Адраджэння".

Луцкевіч-старэйшы цяжка хварэў на сухоты. Яго каханая Юліяна Мэнке ў 1919 г. змагла завезці яго на курорт у польскае Закапанэ, але было ўжо позна. Памёр 20 жніўня 1919 г. у Закапаным (Польшча). Магілу Івана Луцкевіча выкраслілі з рэестраў прыблізна ў 1963 г. У 1991 г. беластоцкі гісторык Алег Латышонак прывёз у Вільню ўмоўную жменю зямлі. Сімвалічнае перапахаванне Луцкевіча адбылося на віленскіх могілках Росы. У сённяшняй Беларусі ні Іван Луцкевіч, ні яго брат Антон, якія згінуў у савецкім канцлагеры, не ўшанаваныя нія́к.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Віншуем спадарыню Галену Панько-Карповіч са Стагоддзем !

### Маёй настаўніцы

*Галене Панько-Карповіч у Стагоддзе з дня нараджэння*

Былі мы надта маладымі
У паваенным сорак пятым
І сёння маем за плячыма
Гадкоў пражытых мнагавата.

Пані настаўніцай адзінай
Нашае гайнаўскае школы.
Вучнёўская мая павіннасць
Адзначыць слаўны дзень вясновы.

Жадаю Пані шчасця многа,
Здароўя, годзікаў без ліку.
Хай споўняцца ўсе ласкі Бога,
Які нас да жыцця паклікаў.

*Беласток, 26 мая 2016 г.*
**Віктар ШВЕД**

## Еўрапейскі тыдзень спорту

На зломе траўня і чэрвеня (26.05-1.06) адзначаецца Еўрапейскі тыдзень спорту, у рамках якога арганізуецца Спартыўны турнір гарадоў і гмін. У гэтым годзе адзначаўся VIII выпуск тыдня спорту і XXII выпуск турніру гарадоў і гмін. Чаромхаўская гміна штогод актыўна ўдзельнічае ў гэтай спартыўнай падзеі. Найбольшай зацікаўленасцю карыстаецца Турнір за кубак войта гміны. Сёлета турнір адбыўся ў доўгі ўік-энд — 27 траўня. Спаборніцтвы праходзілі ў двух дысцыплінах: футболе і перацягванні каната. Не было заяў ад валейбольных каманд (у мінулым годзе ўдзельнічалі жаночыя каманды). Спаборніцтвы праходзілі на спартыўнай пляцоўцы „Орлік”. У футболе змагалася сем каманд, а ў перацягванні каната — чатыры. Па правілах кожная каманда змагалася з кожнай.

У канчатковым выніку ў футболе перамагла каманда „Калеяжа” і атрымала кубак войта. Чарговыя месцы занялі: 2 — Пагранічная ахова, 3 — „Коко юмбо”, 4 — Рымска-каталіцкая парафія, 5 — ОСП Чаромха, 6 — Праваслаўная парафія, 7 — Насычальня.

У перацягванні каната перамагла каманда Гміннай управы; 2 месца заняла каманда ОСП Чаромха, 3 — Орлік, 4 — Насычальня.

Пераможным камандам (ад 1 да 3 месца) былі ўручаны кубкі войта гміны. Астатнія атрымалі ганаровыя граматы за ўдзел у турніры. Зацікаўленасць мерапрыемствам была памяркоўная, хоць эмоцый як спартсменам, так і балельшчыкам — хоць адбаўляй!

Варта адзначыць, што спартыўны турнір за кубак войта праходзіў пад наглядам апекуна Орліка Ірэны Пашкоўскай ды пры падтрымцы войта Міхала Врублеўскага, старшыні Рады гміны Сяргея Смыка, сакратара Гміннай управы Марыі Іванюк і кола верных чаромхаўскіх балельшчыкаў.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

## Адгаданка Адгаданка Адгаданка

1. брат Мяфодзія, 2. праём з парогам, 3. блазен, арлекін, 4. саламяны элемент страхі, 5. павіннасць, 6. разам з душою, 7. мудры чалавек, 8. танец з ... персаналу і шостай ноты гамы.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | | | |
| | 2 | | | | | | | |
| | | 3 | | 4 | | | | |
| 5 | | | | | | 6 | | |
| | | | | | 7 | | | 8 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 21 нумара**

Вал, зала, комі, кулон, неба, ніць, пуга.

Рашэнне: **З паклону галава не баліць нікому**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм’янюк** з Бельска-Падляшскага.

## 12.06 — 18.06

**(22.03. — 20.04.)** 11-14.06. будзе горача ў пары. Не стаў усяго на адну карту. Увесь месяц ты прымушаны да нялёгкіх рашэнняў, на працы таксама (лаяльнасць да калег ці павышэнне, асабліва да 15.06.; добрым ходам могуць быць уцёкі ўперад 12-16.06. можаш пайсці на новую працу). Будзь цярплівы і ўстойлівы. Удалыя падарожжы і кампанейскія сустрэчы. 13.06. адчуеш, быццам табе з плячэй знялі вялікі цяжар.

**(21.04. — 21.05.)** Можаш шмат зарабіць або выйграць! Спрацуе таксама твая інтуіцыя, так што ў чэрвені будзеш «залічаць» поспех за поспехам. Забудзеш усё благое што было ў пары. Але 11-15.06. магчымая ў нечым параза — наступным разам удасца! Калі пачынаеш новую працу, не дай сябе ўцягнуць у нейкую інтрыгу.

**(22.05. — 22.06.)** Да 17.06. можаш паладзіць справы з партнёрам. 15.06. можа здзейсніцца твая найбольшая прага. Сонца пафарбуе твае жыццё і праблемы мінуць. Не сядзі дома ці ў офісе — едзь на абучэнні, канферэнцыі, пашырай кантакты. Ад 18.06. спрыянне ў трапных пакупках і інвестыцыях.

**(23.06. — 23.07.)** Не будзь казлом адпушчэння, не пагаджайся на ўсё, чаго ад цябе патрабуюць, кажы што думаеш, не бойся, што падпадзеш шэфу. Можаш нават узначаліць калектыў. Не праваронь важных інфармацый. 12.06. аформіш ва ўстановах справы, якія проста немагчыма адолець. 17.06. будзеш мець больш адвагі пры рашэннях — рызыка акупіцца. Ад 18.06. вялікія поспехі і папулярнасць.

**(24.07. — 23.08.)** 12-16.09. удасца табе парваць з руцінай і ў прафесіі, і ў пачуццях. Радаснае ажыўленне асабліва ў адносінах з людзьмі. Будзеш каралём у кампаніі! Але калі пачуеш пару слоў крытыкі, прымі гэта да сэрца і абяцай паляпшэнне. Калі маеш свой бізнес, падумай аб тым, каб увайсці ў нейкую суполку — ад 14.06. (да 30.06.) будуць да цябе ісці людзі з грашыма, гатовыя заінеставаць у твае задумы. Ільвы, шукаючыя працу, пасля 13.06. атрымаюць цікавую прапанову ад знаёмых.

**(24.08. — 23.09.)** Паявяцца доўгачаканыя нагоды. Пасля 13.06. скок у кар’еры. Навядзецца лад у пачуццях, і магчымае самае важнае рашэнне. У Дзеваў у парах мілыя хвіліны поўныя любові і блізкасці. На працы многа работы — выкажашся працавітасцю, сумленнасцю і творчым падыходам. Цешся прыродай. Не сядай на ніякую дыету і хатнюю курацыю!

**(24.09. — 23.10.)** Час задумы над жыццём, але не адмаўляйся ад дзеянняў! Удасца спалучыць хатнія і працоўныя абавязкі, але не лянуйся і не знеахвочвайся — тады ўвесь чэрвень будзе ўдалым. Дацэніш сямейныя сувязі і зразумееш рытуалы. Грошай не трымай у шкарпэтцы, інвестуй. Добра высыпайся, адмаўляйся ад мучных страў.

**(24.10. — 22.11.)** Калі ты адзінокі, маеш шанцы пазнаёміцца з кімсьці прыцягальным, а найбольшае «бранне» будзеш мець ад 18.06. На сваёй дарозе сустрэнеш шмат цікавых людзей, з якімі варта пасябраваць. На працы не азірайся на іншых, не расставайся з каляндарчыкам 11-18.06., пільнуй датаў сустрэч, рахункаў, дакументаў. Калі шукаеш працу, тваім козырам будуць веды і мовы (варта адсвяжыць памяць). Умела гаспадаруй часам і грашыма.

**(23.11. — 22.12.)** Не паддавайся благім настроям, разлічвай на сяброў. І сам ты будзеш суцяшальнікам і медыятарам. Застукай у дзверы шэфа па сваё павышэнне. Кіруйся хутчэй розумам, чым інтуіцыяй. З 14.06. удачы ў прафесіі і добрыя прыбыткі. Але абавязкова пільнуй усіх аплат, каб не сустрэцца з інкасатарам даўгоў!

**(23.12. — 20.01.)** Нічога не вырашай пад уплывам імпульсу. Развітаешся з самотнымі вечарамі — паявяцца твае новыя паклоннікі. У спараваных Казярогаў спробы сіл, дык не шкадуй сваёй палавінцы пахвал і кампліментаў, распешчвай яе. Пільнуй сваіх спраў на працы. Пасля 14.06. варта вярнуцца да старых задум і ранейшых прапаноў і абдумаць іх яшчэ раз — у новых акалічнасцях могуць быць вельмі карыснымі.

**(21.01. — 19.02.)** 11-17.06. выклічаш добрае ўражанне на шэфе або важным кліенце. Вадалеі з другой і трэцяй дэкады могуць трапіць у месца, дзе ў выніку незвычайных супадзенняў наладзяць цікавыя і інтрыгуючыя знаёмствы. Эмацыянальныя напругі разгрузі фізічнымі занятками.

**(20.02. — 21.03.)** Экзамены найлепш паздавай да 12.06. Магчымыя памылкі, але ўпадзеш на чатыры лапы — няма чаго траціць нервы. Калі напаткаеш перашкоды, не фарсіруй нічога сілай. Фліртуючыя Рыбы могуць спадзявацца сур’ёзных прапаноў. На працы ты беззаганны, дзякуючы чаму можаш атрымаць новыя прапановы (прымі іх), а калі застанешся на старым месцы, не дай сябе паганяць і ўцягвацца ў саперніцтва. На рабоце павышаная актыўнасць.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**


**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

*PL ISSN 0546-1960*
*NR INDEKSU 366714*

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (46)



Шчасце, што ў палескай сталіцы бізнесу і сексу Камені-Кашырскім банкаматы адмовіліся выдаваць грошы. Паўсюдна высвятлялася адно паведамленне: банк не абслугоўвае вашай карты! Інакш, мы раскупілі б усе чарадзейныя тавары цёткі Ніны. Жанчына прывабіла да сябе выглядам. У нас пра такіх цётак кажуць, што яны свойскай гадоўлі.

А можа штось нашаптала, прычаравала.

Яе балотна-лясны тавар, выкладзены на невысокім падмурку, меў дапамагчы на ўсе балячкі. Сярод бананаў і мандарынаў, якіх прадавалі на суседніх прылаўках, дзівосныя бэткі і зёлкі цёткі Ніны явіліся лакальным рарытэтам і рэліктам племенна-збіральніцкай культуры. Гандлярка дабыла з пакета сохлы грыб, які напамінаў мініяцюрны, складзены парасон, з доўгай белай ножкай. На першы погляд гэта была атрутная воўчая бэтка.

— Гэты грыбок на рэгуляцыю кішак, — заявіла дзелавіта Ніна. — Яго трэба заліць самагонкай, паставіць у цёмным, халодным месцы і пачакаць дзевяць дзён, аж зробіцца настойка. Лякарства трэба піць асцярожна, тры кроплі ў дзень. Пасля трох тыдняў, кішкі пачнуць нармальна працаваць, вернецца смак і ахвотна на *гэтыя* справы...

У якасці ўзбуджальнага сродку Ніна прапанавала яшчэ свежыя смарчкі.

— Перад тым як сасмажыць, іх трэба адварыць у кіпені.

Як дзейнічаюць рыжыя бэткі, падобныя на мозг бабра?

Каб патлумачыць інтымныя справы, Ніна пакарысталася сельскагаспадарчай паэтыкай:

— Калі накарміць імі мужыка, то цэлы дзень гараць канём поле будзе... Не празявайце, мілыя, купляйце! Дзесяць грывень за штуку!

* * *

Паездка ў суседнюю Украіну гэта не толькі вандроўка па разгайданых асфальтоўках, гэта яшчэ вандроўка ў часе. Вакол мястэчак і вёсак панаваў зрух як у мурашніку вясною. Людзі без ніякіх еўрапраектаў вярнуліся да традыцыйных заняткаў. Яны растрасалі гной, аралі і садзілі бульбу, разбівалі агароды, сеялі грэчку і буракі...

У наваколлі Каменя-Кашырскага ўсё выглядала яшчэ больш праўдзіва. Ля сяла Зарэчча, што маляўніча цягнулася паўз меандрычны бераг ракі Тур'і, панавала як нідзе вясновае ажыўленне. На свежым мурагу пасвіліся каровы, за якімі хадзілі дзве маладзіцы з каламі. Усюды, дзе не глянь, узнікалі новыя палеткі. Людзі выдзіралі іх лесу і здзічэлым балотам з засохлым трыснягом і чаротам. Пах тарфянога поля, гною і свежага вербалозу разносіўся ў паветры і прыемна казытаў ноздры. За плугам, які цягнуў конь або стары трактар, хадзілі жанчыны і дзеці, а за імі буслы, кнігаўкі, марскія чайкі... Час ад часу дзікае птаства падрывалася ў паветра і з пранізлівым крыкам кружыла над галовамі работнікаў. Для чалавека звонку вобраз здаваўся ідыліяй, аднак не для мясцовых. Людзі закацілі рукавы, каб не галадаць. Сельскагаспадарчай мабілізацыі спрыяла дзяржава. Кожная сям'я, якая жадала пасадзіць загон бульбы або пасеяць грэчку, бясплатна атрымала кавалак запушчанай зямлі. Усё апошняе, зараць, абсеяць, вырасціць і сабраць плён, трэба зрабіць сваімі сіламі і найчасцей сваімі рукамі. Нешта такое як еўрадаплаты да гектара, якія атрымлівае наш земляроб, тут здаваліся залатой казкай. Аднак людзі не наракалі. Мы назіралі, як зарачанскія мужыкі з натуральнай свабодай панавалі над канём і плугам. Услед ім слаліся роўныя, як пад лінейку, загоны.

* * *

Сярод лекавых грыбкоў Ніна прапанавала яшчэ сохлую чагу, якая вырасла на маладой бярозцы.

— Гэта таксама лек на *гэтыя* справы? — спыталі мы.

— На камароў і мошку, — адказала дзелавіта гандлярка. — Ведаеце, што такое мошка? Чортавае насенне, не скажаш іначай. Крыважэрныя насякомыя, якія заядуць карову, калі тая заблудзіцца ў імшар.

З дапамогай падпаленай чагі, ад якой ідзе горка-ядавіты дым, туземцы выганяюць камароў, мух і мошку з хаты і гаспадарчых будынкаў. Ад іх няма ратунку летам, асабліва калі хто жыве пры вадзе. Ніна расхваліла яшчэ атрутны „багоннік", балотнае духмянае зелле, з дапамогай якога можна з шафы прагнаць моль.

Пасля прыйшла чарга на сушаныя ягады арабіны, ягады каліны, якія ў нас лічаць атрутнымі. Гандлярка параіла заліць іх самагонкай і пачакаць, пакуль атрымаецца чырвоная настойка.

— А на што яна дапамагае? — дапыталіся мы.

— На ўсё!

На свойска араматным прылаўку Ніны не магло абысціся без сырой журавіны. Жанчына насыпала нам у рукі кіслых ягадак і загадала частавацца. Ды сама, каб дадаць смеласці так неабходнай у смакаванні прадуктаў першабытнай кухні, быццам птушка праглынула некалькі ягадак і весела засакатала:

— Ад іх сіла і чырвоныя шчокі!

Як аказалася, усе тавары гандлярка сабрала сваімі рукамі ў лесе і на балоце. Ці не стамляе яе праца, далёкія вандроўкі па лесе?

— А як жа жыць не рабіўшы, — здзіўляецца пенсіянерка, — *да грэх*, каб столькі дабра змарнавалася ў лесе.

* * *

Па дарозе мы назіралі сучасны і менш практычны раман палешука з лесам. Амаль пры кожным сяле ў лесе стаялі новыя бяседкі, то-бок столікі пад дахам, прызначаныя для адпачынку. Вакол вогнішчаў выседжвала хмара моладзі, дымелі шашлыкі. Па дарозе сустракаліся закаханыя парачкі. У руках дзевак віднелі букеты лясных анемонаў. У наваколлі Каменя-Кашырскага як нідзе — дзікі, прыгожы лес.



Рака Тур'я, правы прыток Прыпяці

Пра гэты куток пісаў эмігрант Францішак Віславух у кнізе „Рэха Палесся". Культавая кніга, прасякнутая палымянай любоўю да палескіх балот і лясоў, была выдадзена ў 1979 годзе ў Лондане.

З перспектывы самай сучаснай еўрапейскай сталіцы сум і настальгія здаваліся яшчэ больш дакучлівымі. Аўтар, мастак і вайсковец, родам з Пярковічаў непадалёк Пінска, шмат месца і ўвагі аддае людзям пушчы: леснікам, егерам, загоншчыкам, паляўнічым. Сярод герояў апынуўся і эмігрант ад Каменя-Кашырскага:

*„... Аднойчы ў рукі патрапілі лісты аднаго гаёвага ад Каменя-Кашырскага. Той гаёвы атрымаў пасаду ў дзяржаўных лясах Новай Зеландыі, працаваў там таксама егерам. У яго былі ідэальныя ўмовы працы, жыў з сям'ёй у лесе, займаўся работай, якую любіў і ведаў — ён адстрэльваў дзікіх кабаноў і коз (якія нішчылі лес) і за гэта яму плацілі грошы, а мяса і шкуры ён мог затрымаць сабе, так што жылося яму зусім нядрэнна. У лістах ён аднак усё ўспамінае палескія лясы, марыць, каб да іх вярнуцца. Бо там для яго „лепшае паветра і там былі ваўкі, якіх няма ў Новай Зеландыі".*

*Гэтая адвечная прывязанасць да сваіх лясоў і сваёй прафесіі была характэрнай для тых людзей. Бездарожжы лясных абшараў абаранялі іх перад чужымі ўплывамі, там захаваліся адвечныя традыцыі і звычаі. Сумавалі найбольш па сваім лесе і жылі ўспамінамі аб ім. Не вабілі іх новыя, лепшыя і больш каларытныя ўмовы жыцця...".*

Першабытная чароўнасць пушчы для нас аб'явілася ў асобе цёткі Ніны і яе чарадзейных лекаў на ўсе балячкі. Жанчына відавочна акрыяла. Калі пасля гадзіны мы пакідалі рынак, цётка дагнала нас на вуліцы, каб падарыць яшчэ нейкі пучэчак балотнага зелля. Яно мела дапамагчы на распяхованне перасячэнне мяжы! Мы, вядома, праігнаравалі парады, таму памежныя і мытныя службы трымалі нас на мяжы як ніколі доўга, больш за чатыры гадзіны. Магія зёлак дзейнічала па ўкраінскім і польскім баках...

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**



ISSN 0546-1960